# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 7 (938) ГОД XIX БЕЛАСТОК 17 ЛЮТАГА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


Скачок у будучыню

# БЕЛАСТОК - ЭЛК - ЛОМЖА - БЕЛЬСК...

Пасля Каляд атрымаў я ліст ад швагра. Ён пісаў:

„Шмат я думаў пра тое, да чаго ты мяне заахвочваў, а менавіта, каб перабрацца на вашу Беласточчыну. Жонка была б за тым, каб мы пераехалі ў Беласток. Зразумела, яе цягне ў родныя старонкі. Але дзе нам жыць? Дзе працаваць? Разумееш жа, што пакуль не атрымаю канкрэтных адказаў на гэтыя пытанні, цяжка мне вось так, ад рукі пакінуць абжытае ўжо месца“.

І я задумаўся над гэтым. З матэрыялаў, якія знаходзяцца ў маім распараджэнні, вынікае, што найбольш інтэнсіўна будзе ў далейшым развівацца сталіца нашага ваяводства. Ужо ў 1980 годзе Беласток будзе налічваць 220 тысяч чалавек. Вынікала б з гэтага, што кожны год насельніцтва Беластока будзе павялічвацца на тысяч 7—8. Пад яго непасрэдным уплывам знойдуцца цяперашнія сонныя мястэчкі такога тыпу, як Васількоў, Супрасль, Хорашч, Чорная Беластоцкая і Лапы. Разам са сваім цэнтрам, з горадам Беластокам, утвораць яны адзін гаспадарча-грамадскі арганізм, які, мяркуюць, яшчэ ў першай палавіне XXI стагоддзя сальецца ў адзіную гарадскую зону, накшталт тых, што ўжо цяпер існуюць на Шлёнску, у раёне Катовіц, або над морам, вакол Гданьска. Разам яны змесцяць ужо ў 1980 годзе 260 тысяч чалавек, пастаянных жыхароў. Там якраз многія спецыялісты і высокаадукаваныя рабочыя знойдуць працу, бо ў гэтай шырока разгалінаванай гарадской зоне Беластока будуць у асноўным абсталяваны буйныя прадпрыемствы спажывецкай, тэкстыльнай, электра- і машынабудаўнічай прамысловасці. Гэтыя прамысловыя прадпрыемствы, як магніт, будуць прыцягаць да сябе людзей.

А што за межамі Беластоцкай зоны?

Другое месца пасля Беластока па колькасці жыхароў ужо цяпер прыпадае Элку і так яно застанецца, пакуль, вядома, не дабярэмся да падземных багаццяў паўночнай Сувальшчыны. Але да гэтага часу аднак Элку належыць другая скрыпка, бо ў 1980 годзе будзе налічваць ён амаль 40 тысяч чалавек, якія знойдуць працу на буйным мясакамбінаце, што ў студзені гэтага года распачаў прадукцыю, а таксама на фабрыцы электраабсталявання для аўтамабіляў і станкоў і на фабрыцы дыкты і фанеры.

Зараз за Элкам змагаюцца за трэцяе месца Ломжа і Сувалкі. Для абодвух гэтых гарадоў спецыялісты плануюць па 35 тысяч жыхароў у 1980 годзе. Лепшыя аднак шансы мае, здаецца, Ломжа, бо для яе і для Элка вызначаецца роля звышпавятовых цэнтраў паскоранага развіцця.

І толькі ў чарзе за гэтымі гарадамі сустракаем Бельск Падляшскі. Сёння ўжо з сонлівай дрымоты будзіць яго магутны гул экскаватараў, што рыхтуюць пляцоўку для пабудовы буйнейшага ў Еўропе поўнасцю аўтаматызаванага камбіната па перапрацоўцы малака. Насельніцтва Бельска за 6 гадоў павялічыцца амаль да 20 тысяч чалавек.

А які лёс чакае Гайнаўку, Сямяцічы, Саколку і ўсе іншыя гарады і мястэчкі Беласточчыны?

Што ж, прыдзецца ім яшчэ крыху пачакаць. Гайнаўка, вядома, вырасла на дрэве і надалей будзе карміцца сокамі Белавежскай пушчы. Дык плануецца тут памяркоўная разбудова дрэваперапрацоўчай прамысловасці, а перш за ўсё павышэнне якасці і прадукцыйнага стандарту вырабаў. Прыйшлося, для прыкладу, чуць, што дырэктар Зін з дрэваперапрацоўчага камбіната ўжо цяпер рыхтуецца да выпуску кантэйнераў, якія шукаюць на цэлым свеце. Цяперашняя хімічная фабрыка, якая часта атручвае паветра над Гайнаўкай і ваду ў лясных рэчках, пераўтворыцца ў супернавейшы камбінат, дзе рабочыя працуюць у белых халатах.

Апрача гэтага, Гайнаўка і часткова Сямяцічы маюць спаўняць ролю паўднёвых курортаў Беласточчыны. Гайнаўка будзе тады асноўнай турыстычнай базай для ўсіх тых, хто захоча захапляцца прыгажосцю Белавежскай пушчы. Аўгустову, вядома, Гайнаўка не дараўнае, аднак з турыстыкі, калі патрапіць, жыць можа нядрэнна. Новыя гатэлі, дом творчай працы, сталовыя, рэстараны і

(Працяг на стар. 4)



**„Цэнтр II“**

Пры вуліцы М. Складоўскай-Кюры ў Беластоку рабочы калектыў Беластоцкага прадпрыемства жыллёвага будаўніцтва пачаў ставіць першыя 12-павярховыя жылыя будынкі. Да першага „блёка“ (на здымку) навасельцы пяройдуць на сталае жыхарства ўжо ў першай палавіне гэтага года. На месцы будзе знаходзіцца таксама гандлёва-паслуговы цэнтр.

**Фота Я. Цялушэцкага**

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# Аксюцічы

**Аксюцічы** — невялічкая вёсачка на левым беразе рэчкі **Машчонкі** (правага прытоку р. Буга), знаходзіцца ў адлегласці 15 км на ўсход ад Сямяціч, гміна і павет Сямяцічы. Ёсць у ёй 17 гаспадарак і жыве каля 90 асоб.

Хоць **Аксюцічы** і не трапілі ў летапісы, хронікі і іншыя даўнія дакументы, чалавек у гэтых мясцінах пасяліўся вельмі даўно. Пра гэта сведчыць пагорак, які знаходзіцца ў 200 м. на ўсход ад вёскі, які тут называюць **„Могылкі“**. Яшчэ гадоў пяцьдзесят таму назад на **„Могылках“** стаялі велізарныя дубовыя васьміканечныя праваслаўныя крыжы і ляжалі каменныя пліты з нейкімі незразумелымі надпісамі невядомым для навакольнага насельніцтва пісьмом. Такія ж самыя **„Могылкі“** знаходзяцца кіламетраў пяць на поўдзень ад **Аксюціч** у напрамку да ракі Буга. На ўсходзе аксюцічаўскія палеткі падыходзяць да марэннага ўзвышша, што называецца **Конскія горы.** Ці не след гэта даўняга пасялення полаўцаў? Захавалася таксама старая загадкавая назва **Суміцкі лес**

**Суміцкае поле.** У памяці старажылаў захавалася вестка пра вёсачку **Каянку,** якая знаходзілася непадалёк ад сённяшніх Аксюціч.

І вабіла людзей у гэтыя бакі не столькі зямля, бо яна тут пяшчаная і не надта ўраджайная, колькі прыгожая рэчка **Машчонка.** У Буг нясе яна свае воды вузкай далінай паміж пагоркаў, а гэта давала магчымасць запруджваць яе пакручастае русла шматлікімі грэблямі і будаваць млыны. У Люстрацыі Мельніцкага староства, складзенай у другой палавіне XVI стагоддзя, знаходзім назву **„Млынары“,** якая адносіцца да паселішчаў па рацэ **Машчонцы.** Бадай, ад імён гэтых млынароў і паходзяць назвы паасобных вёсачак, што расселіся ўздоўж усёй рэчкі: **Станкевічы** — ад колішняга імені **„Станко“, Паўлавічы** — ад **„Паўла“, Вакулавічы** — ад **„Вакулы“,** а **Аксюцічы** — ад жаночага імя **„Ксенія“,** якое ў беларускіх гаворках атрымала форму „Аксюта“, напрыклад, у дакуменце ад 1746 г. з Магілёва знаходзім „Аксюта Автущиха“ і „Аксюта Кужалиха“.

Як паведаміў нам старажыл Аксюціч — **Міхал Андрушкевіч,** 1910 года нараджэння, грэблі і палі па колішніх **млынах і фолюшах** можна і сёння яшчэ бачыць па ўсёй рэчцы **Машчонцы.**

Прозвішчы жыхароў **Аксюціч** таксама многае гавораць: **Андрушкевіч, Заневіч, Зенюк, Іваноўскі, Кажухоўскі, Кузьмюк, Мантур, Мартынюк, Нічыпарук, Пура.**

У **Аксюцічах** здаўна жылі людзі працавітыя і кемлівыя. Найцяжэй ім жылося пры царызме і міжваеннай Польшчы. Зямлі тут нямнога, а заробак цяжка было знайсці. У часе вайны вёска трапіла паміж перадавымі пазіцыямі і амаль уся згарэла. Але аксюцічане хутка адбудаваліся, і іх рамесніцкія здольнасці таксама пайшлі ў ход. **Андрушкевіч Мікалай** — сталяр займаецца вырабам паркету, падэшваў да модных хадакоў, на экспарт робіць упакоўку да цытрусавых фруктаў. **Мантур Юзаф** —

(Працяг са стар. 3)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"

**Што чуваць у Бельскім павеце? ● Заданні на 1974 год ● Сімпатычная прадаўшчыца з Дубровы ● У нас у гасцях серба-лужыцкі госць ● Памяці Адама Міцкевіча ● Пра сельскагаспадарчы кааператыў у Зубрах Беластоцкага павету ● І так бывае ● Голас мае пракурор ● З маёй званіцы ● Помнік дзецям і для дзяцей ● Весткі з Тапаркоў, Дубіч Царкоўных, Грыгораўцаў, Міхалова, Шудзялава і Крынак ● Песня „Paryskie tango”.**



ЛЮДЗІ НАШАЙ ВЁСКІ

# Майстар

Вёска Дубна, што ў Бельскім павеце, мае багатую гісторыю. Аб яе людзях, аб дзейнасці савецкіх партызан у час гітлераўскай акупацыі напісаны кніжкі. Пасляваенная гісторыя вёскі — гэта таксама змаганне за новае, сацыялістычнае.

Калі разгарнулася праца над арганізаваннем сельскагаспадарчых кааператываў, тутэйшыя энтузіясты адразу склалі свае подпісы на дэкларацыях. Дубнаўскі кааператыў пачаў развівацца і гаспадарыць. Меў дасягненні, але і меў недахопы аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару. Адным з членаў кааператыва быў **Сцяпан Малец,** сёння „Майстар сельскагаспадарчай прадукцыі“, прозвішча якога запісана ў „Залатой кнізе“ ваяводства. Сёння няма ў Дубне кааператыва, але дзейнічаў там вельмі актыўны сельгасгурток, які, між іншым, кіраваў Сцяпан Малец і на фоне якога стварылася „кулковая“ свінаферма.

Сцяпана Мальца застаю ў клуні, якую нядаўна пабудаваў. Выйшаў сюды, каб падрыхтаваць корм жывёле. Запрашае ў хату, і тут вядзем размову. Зразумела, перш за ўсё цікавіць мяне, як цяпер гаспадарыць гэты ўжо больш чым шасцідзесяцігадовы майстар.

Гаспадарыць Малец на 10 гектарах зямлі. Мае 1,5 гектара лугоў, гадуе 12 кароў і больш 20 свіней. У мінулым годзе прадаў дзяржаве 3 400 кілаграмаў мяса, 7 тысяч літраў малака. Атрымлівае добрыя плёны збожжа і іншых культур. Напрыклад, з 1,18 га засеянага жыта сабраў 36 цэнтнераў збожжа, гэта

Працяг на стар. 4

# • Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі •



## СВЕТ

### ГРАМЫКА Ў ВАШЫНГТОНЕ

У Белым Доме адбылася сустрэча міністра замежных спраў СССР А. Грамыкі з прэзідэнтам ЗША Р. Ніксанам. На сустрэчы было абмеркавана шырокае кола пытанняў, у тым ліку двухбаковыя савецка-амерыканскія адносіны, жанеўская мірная канферэнцыя па Блізкаму Усходу, прагрэс па перагаворах аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў, праблемы, звязаныя з еўрапейскай бяспекай.

Прадстаўнік Белага Дома паведаміў, што Р. Ніксан і А. Грамыка абмяняліся думкамі па пытаннях, якія будуць абмяркоўвацца, калі прэзідэнт Ніксан наведае Савецкі Саюз.

### ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

У штаб-кватэры ААН пачала работу чарговая сесія Камісіі ААН па правах чалавека. У яе парадак дня ўключаны такія важныя пытанні, як парушэнне правоў чалавека на тэрыторыях, што знаходзяцца пад каланіяльным і замежным панаваннем, а таксама на арабскіх тэрыторыях, акупіраваных Ізраілем.

### НАРМАЛІЗАЦЫЯ

Егіпецкія ўлады прымаюць намаганні па нармалізацыі жыцця ў Суэцы і прылеглых да яго раёнах пасля вываду адтуль ізраільскіх войск.

Адноўлена 80 кіламетраў прамой тэлефоннай лініі сувязі Каір—Суэц. У бліжэйшы час пачнуцца работы па пашырэнню шашы, якая звязвае горад са сталіцай, і рамонты разбураных мастоў. У канцы лютага намечана адкрыць рух на чыгунцы Суэц—Каір.

### СЯМЕЙНЫЯ ВЫДАТКІ

Савецкія даныя аб структуры сямейных выдаткаў гавораць, што паменшыліся выдаткі на харчы, а павялічыліся на пакупку прамысловых тавараў і паслугі. Аднак гэта не абазначае зніжэння спажывання харчоў. У гадах 1961—1972 спажыванне мяса і мясных прадуктаў павялічылася на 28 прац. У 1972 годзе ў сярэднім на аднаго жыхара выпала 51 кг мяса, 296 кг малака і малочных прадуктаў, 185 штук яек, 15,1 кг рыбы і рыбных кансерваў, 38,8 кг цукру. Спажыванне хлеба і бульбы паменшылася на 12 прац.

### МАЛАДЗЁЖНЫ ЗАКОН

Народная палата ГДР прыняла „маладзёжны закон“, які складаецца з 59 пунктаў. Значна павялічвае ён суадказнасць маладога пакалення за кіраванне краінай і дае яму большыя правы і прывілеі. Напрыклад, у шматлікіх істотных справах рашэнні будзе прымаць Цэнтральная рада FDJ, а не дзяржаўная адміністрацыя. Прадбачваюцца розныя атракцыйныя формы ўзнагароджвання маладых. Іх звышпланава выгаспадараны прыбытак будзе складацца на „рахунак маладых спецыялістаў“, а гаспадаром яго будзе маладзёжная арганізацыя. Асаблівую апеку атрымае рух маладых наватараў, а яго перадавікі будуць узнагароджвацца і накіроўвацца на далейшую навуку з загранічнымі выездамі ўключна. (ак)



## БССР

### ГАНАРОВАЯ ПАДЗЯКА

Ад Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савета Міністраў СССР паступіла ў адрас Беларускай ССР наступная падзяка;

„Дарагія таварышы!

Цэнтральны камітэт КПСС і Савет Міністраў СССР сардэчна вас віншуюць з вялікай працоўнай перамогай — паспяховым выкананнем прынятых на 1973 год сацыялістычных абавязацельстваў па паскарэнню будаўніцтва і ўводу ў дзеянне вытворчых магутнасцей на прадпрыемствах лёгкай, харчовай, мясной і малочнай прамысловасці.

Атрыманая вамі працоўная перамога стала магчымай дзякуючы самаадданай працы рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў, масаваму працоўнаму энтузіязму ўсіх удзельнікаў будаўніцтва, шырока разгорнутаму сацыялістычнаму спаборніцтву...“

### БЕЛАРУСЬ У 1974 ГОДЗЕ

Нацыянальны даход Беларусі ў параўнанні з рэкордным 1973 годам павялічыцца ў 1974 годзе больш чым на 8 працэнтаў. Выпуск прамысловай прадукцыі ўзрасце таксама на 8 працэнтаў, а работнікам сельскай гаспадаркі трэба будзе прадаць дзяржаве не менш чым мільён тон збожжа, 1 мільён 670 тысяч тон бульбы, 3 мільёны 380 тысяч тон малака, каля мільёна тон мяса.

Генеральны напрамак індустрыі застанецца даўнейшым. Апераджальнымі тэмпамі будуць расці машынабудаўнічая, паліўная, энергетычная і хімічная галіны. Напрыклад, за год у БССР будзе пабудавана на 400 тысяч кілават новых энергетычных магутнасцей, здабыча беларускай нафты ўзрасце на звыш 10 працэнтаў і дасягне амаль 8 мільёнаў тон. Машынабудаўнікі збяруць за год 83 тысячы трактароў, 34 тысячы грузавых аўтамабіляў, звыш 30 тысяч металарэзных станкоў.

### БЕЛАРУСКАЯ ТЭХНІКА Ў СВЕЦЕ

У Мінск, у адрас інстытута цепла- і масаабмену Акадэміі навук БССР, з Рыма і Берна паступілі паведамленні аб тым, што там запатэнтаваны новы спосаб канструкцыі ўстановак для сушкі медыцынскіх прэпаратаў, распрацаваны беларускімі вучонымі. Спосаб гэты надзвычай эфектыўны. Ён паскарае працэс сушкі ў 12—15 разоў. Таму італьянцы і швейцары вырашылі не распрацоўваць сваю, а імпартаваць беларускую тэхналогію.

Беларусь, як вядома, экспартуе гатовыя вырабы. Летась беларускія трактары купілі 60 краін свету. Можна меркаваць, што сёлета попыт на іх не зменшыцца.

### АЎТАМАБІЛІ-ВОЛАТЫ

На беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіна праходзяць цяпер завадскія выпрабаванні 120-тонныя вуглявозы і 75-тонныя аўтасамазвалы. У бліжэйшых планах беларускіх аўтазаводцаў — 180-тонныя, а ў перспектыве — 300-тонныя аўтамабілі. (вр)



## ПОЛЬШЧА

### КРАЁВАЯ НАРАДА

У Варшаве адбылася краёвая нарада партыйна-гаспадарчага актыву. Тэмай яе былі галоўныя заданні ў развіцці краіны ў 1974 годзе. Выступаў І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк, а даклад прадставіў прэм'ер П. Ярашэвіч.

Э. Герэк у сваім выступленні сказаў: „Галоўнае наша заданне ў 1974 годзе — трымаць высокую гаспадарчую дынаміку. Ад гэтага залежыць грамадскі прагрэс і далейшае паляпшэнне бытавых умоў людзей працы.

Удзел у нарадзе прыняло 600 чалавек — міністры, эканамічныя і сельскагаспадарчыя сакратары ваяводскіх камітэтаў партыі, ваяводы, прэзідэнты, дырэктары вялікіх прамысловых прадпрыемстваў.

### І САКРАТАР З ВІЗІТАМ У ТОРУНІ

І Сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў Торунь, а ў ім, між іншым, фабрыку штучнага валакна „Эляна“ і Торуньскі універсітэт М. Каперніка, дзе сустрэўся з вучонымі — працаўнікамі гэтага універсітэта.

### ДЗЕ ДАЖЫНКІ Ў 1974 ГОДЗЕ?

Дажынкі 1974 года адбудуцца ў Познані. Ужо працуе там арганізацыйны камітэт.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

На сваім чарговым пасяджэнні Рада Дзяржавы ўстанавіла новы медаль — 30-годдзя Народнай Польшчы. Будзе ён прызнавацца ад 22 ліпеня гэтага года за заслугі для краю ў шматгадовай працы тым, хто мае не менш, як 15 год добрай працы і грамадскай дзейнасці ў гады народнай улады.

### ПРЭМ'ЕР ЛІВІІ Ў ПОЛЬШЧЫ

З афіцыяльным візітам у Польшчы пабываў прэм'ер Лівіі — А. С. Джалуд. Візіт гэты і размовы з польскімі дзяржаўнымі кіраўнікамі паслужылі ўмацненню палітычных і гаспадарчых кантактаў паміж абедзвюма дзяржавамі.

### У ГЭТЫМ ГОДЗЕ

Некаторыя з планаваных дасягненняў на 1974 г.: будзе аддадзена ў карыстанне 246 тыс. кватэр; пачатковыя школы атрымаюць 2150 новых класаў, а прафесіянальныя школы — 1020 класаў; прадшколлі атрымаюць 12 тыс. новых месц, а 7.355 новых месц прыбудзе ў дамах студэнта; шпіталі атрымаюць 4.200 новых месц — пабудуюцца вялікія шпіталі, між іншым, у Пулавах, Дзялдове, Любліне, Лемборку і Беластоку.

### НАВІНЫ Ў ПРАЦЫ ШКОЛ

Ад новага школьнага года пачынаючы, узрасце лік вольных ад навукі дзён у школах, падоўжаюць і летнія канікулы. (вл)



## ВАЯВОДСТВА

### ДАДАТКОВЫЯ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

На заклік калектыву КЗКС у Старасельцах, даць дадатковую прадукцыю, адгукнуліся іншыя прадпрыемствы Беласточчыны. Тэкстыльшчыкі фабрыкі імя Сяржана абавязаліся больш ашчадна выкарыстоўваць сыравіну і тым самым сэканоміць 3,5 млн. зл. Калектыў Фастаўскага камбіната абавязаўся даць дадаткова вырабаў на суму 22 млн. зл. Калектыў Ломжынскага прадпрыемства мясцовай прамысловасці дасць дадаткова на рынак вырабаў на суму 2,2 млн зл.

### У МОНЬКАХ

Тав. З. Куроўскі, І сакратар ВК ПАРП у Беластоку, сустрэўся з кіраўніцтвам Манецкага павету, а затым наведаў Малочнае прадпрыемства ў Моньках. Калектыў монькаўскай малачарні абавязаўся даць у гэтым годзе дадаткова на рынак прадукцыі на суму 1,5 млн. зл.

### ПРАСТОРАВЫ ПЛАН БЕЛАСТОКА

Нядаўна ў ваяводскім упраўленні ў Беластоку адбылася нарада, прысвечаная зацвярджэнню праекта плана прасторавага загаспадарання горада Беластока. Прысутнічаў на нарадзе віцэ-міністр прасторавай гаспадаркі і аховы асяроддзя Ч. Кутэль. Пасля дыскусіі план агульнага прасторавага загаспадарання нашага горада да 1990 года быў адобраны.

### ІІ СЕСІЯ ГАРАДСКОЙ РАДЫ

На ІІ сесіі Гарадской рады нарадовай, якая адбылася 5 лютага, аднагалосна быў зацверджаны гаспадарчы план і бюджэт развіцця Беластока ў 1974 годзе. У гэтым годзе ў нашым горадзе будзе аддадзена ў карыстанне 2.903 жыллёвыя памяшканні, 20 крамаў, 43 пункты паслуг, 2 жлобкі, 2 прадшколлі і 2 падстаўовыя школы.

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ НАРАДА

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася нарада актыву ПАРП, ЗСЛ і паветовых упраўленняў, прысвечаная важнейшым заданням беластоцкай сельскай гаспадаркі ў гэтым годзе. Галоўнае заданне — утрымаць высокую дынаміку ўзросту. Датычыць гэта акцыі „мільён“ (мільён галоў быдла), узросту пагалоўя авечак, прысяшэння скупкі збожжа, кантрактацыі ўсіх раслін і выдатнага паляпшэння кармавой гаспадаркі. Іншыя справы — гэта поўнае выкарыстанне зямлі, вышэйшы ўзровень агратэхнікі, прысяшэнне вясковага будаўніцтва і г.д. Вёў, а затым падсумаваў нараду сакратар ВК ПАРП С. Завадзінскі.

### ГОСЦІ З ВІЛЬНЮСА

На Беласточчыне некалькі дзён прабывала дэлегацыя спулдзельцаў з Вільнюса. Госці цікавіліся працай нашых гандлёвых устаноў і гастраноміі. Падпісана была ўмова аб прыгранічным абмене таварамі паміж Беласточчынай і Віленшчынай. (яч)




**Niedziela — 17.II.**

6.40 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 2. 7.10 TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 2. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.25 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 „Teleranek". 10.20 PKF. 10.30 Ludwik Sempoliński („W starym kinie"). 11.30 Radar. 11.45 Dziennik. 12.00 „Karajan dyruguje Beethovena" — II. 12.40 Program wiejski. 13.10 „Sozo — znaczy chronię" — rep. film. 13.45 Transmisja narciarskich mistrzostw świata w konkurencjach klasycznych (Falun). 15.00 Dla dzieci. „Złote wrota" — teatrzyk piosenki dziecięcej TV Słowackiej. 15.50 „My — 74" Warszawa — Wrocław — teleturniej. 16.50 Losowanie Toto — Lotka. 17.10 Estrada Poetycka: J. Słowacki „Uspokojenie". 17.20 „Tele — Echo". 18.05 Sportowy Magazyn Sprawozdawczy. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Czarne chmury" — film TVP — odc. IX. 21.10 „Suita tramwajowa". 21.45 Informacyjny Magazyn Sportowy. 22.50 Dobranoc dla dorosłych.

**Poniedziałek — 18.II.**

12.45 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 25. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 39. 15.55 NURT — Ekonomia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.30 Echo stadionu. 17.55 Warszawskie perspektywy. 18.10 Oferty. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Eureka. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: J. Iwaszkiewicz „Młyn nad Lutynią". 21.25 Program publicystyczny. 21.55 Wiadomości sportowe i kronika Narciarskich Mistrzostw Świata w konkurencjach klasycznych (Falun). 22.15 Gra zespół Tomasza Stańki. 22.35 Dziennik.

**Wtorek — 19.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 25. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 39. 7.50 „Siedemnaście mgnień wiosny" — odc. I — film TV Radz. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Język polski. „Spotkanie z pisarzem". 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski. Zygmunt Krasiński „Nie — Boska Komedia" cz. I. 10.45 Transmisja Narciarska Mistrzostw Świata — bieg otwarty mężczyzn na 15 km (Falun). 13.45 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 3. 14.30 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 2. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zręczne ręce... i coś więcej". 17.05 Sylwetki X Muzy — Igor Śmiałowski. 17.35 Dla młodzieży: „W bliskim planie". 18.00 Dla młodzieży: „Człowiek na miarę naszych czasów" (Uniwersytet 8 milionów). 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Sezam. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Siedemnaście mgnień wiosny" — odc. I — film TV Radz. 21.25 Wiadomości sportowe i kronika Narciarskich Mistrzostw Swiata w konkurencjach klasycznych (z Falun). 21.45 Świat i Polska. 22.30 „Człowiek XX wieku" — film TVP. 23.00 Dziennik.

**Środa — 20.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Matematyka —lekcja 3. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 2. 9.10 „Stracona noc" — film TVP. 10.00 Dla szkół: (kl. V) Historia. „Złoty wiek Cesarstwa". 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka. „Pole magnetyczne". 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia. „Pożyteczne związki wapnia". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 18. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 25. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.55 NURT — Psychologia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Harcerski raport". 17.10 Losowanie Małego Lotka. 17.20 Informacje — Towary — Propozycje. 17.35 „Tajemnice Kon el Dikka" (Klub Sześciu Kontynentów). 18.10 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.30 „Nocna rozmowa" — odc. IV — film TV Czechosł. („Łuk tęczy"). 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Stracona noc" — film TVP. 20.55 W 80-tą rocznicę urodzin Jarosława Iwaszkiewicza. 21.40 Wiadomości sportowe i kronika Narciarska Mistrzostw Świata w konkurencjach klasycznych (z Falun). 22.00 Raport z Afryki. 22.40 Dziennik.

**Czwartek — 21.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Fizyka — lekcja 18. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Uprawa roślin — lekcja 25. 8.15 „M — jak morderca" — film fab. ameryk. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski. Zygmunt Krasiński „Nie — Boska Komedia" cz. II. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski. „Włodzimierz Majakowski". 11.35 „Nocna rozmowa" — odc. IV — film TV Czechosł. („Łuk tęczy"). 13.15 TV Kurs Informatyki. 13.45 TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 3. 14.30 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 2. 15.05 Matematyka w szkole: „Własności iloczynu" II. 16.15 Program dnia. 16.20 PKF. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.55 „Przenosiny" („Zwyczaje i obrzędy"). 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Poligon. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „M — jak morderca", — film fab. ameryk. 21.55 Wiadomości sportowe i Kronika Narciarskich Mistrzostw Świata w konkurencjach klasycznych (z Falun). 22.15 Program publicystyczny. 22.45 Dziennik. 23.00 Informacje — Towary — Propozycje.

**Piątek — 22.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Zoologia — lekcja 3. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Hodowla zwierząt — lekcja 2. 9.25 „Człowiek z Newady" — film ameryk. 10.00 „Czarne chmury" — film TVP — odc. IX. 10.50 „Architektura rumuńska" — film dok. rum. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie. „Polska roku 2000". 12.45 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 19. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 32. 14.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 NURT — Filozofia. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.20 Wychowanie fizyczne receptą na zdrowie. 17.45 Dla młodzieży: Tygodnik Informacyjny Młodych. 18.00 Dla młodzieży: „Dwie szkoły — telekonkurs. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Znaki czasu — program pop.— nauk. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Człowiek z Newady" — film ameryk. 20.45 Panorama. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.30 Teatr TV: A. Maliszewski „Droga do Czarnolasu". 23.00 Dziennik.

**Sobota — 23.II.**

6.30 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 19. 7.00 TV Technikum Rolnicze — Chemia — lekcja 32. 8.25 „Fałszywe banknoty" — film fab. franc.-hiszp.-włoski. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia. „Ryby". 12.25 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja rolnictwa — lekcja 2. 13.00 TV Technikum Rolnicze — Język polski — lekcja 3. 13.30 Transmisja konkursu skoków narciarskich — Mistrzostwa Świata w konkurencjach klasycznych (Falun). 15.15 Program dnia. 15.20 Program I proponuje. 15.30 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.40 TV Informator Wydawniczy. 16.00 Dziennik. 16.10 Dla dzieci: „Niezwykły mecz" — film radz. 16.30 Dla młodzieży: Turniej sportów obronnych. 17.10 Nie tyklo dla pań. 17.50 Pegaz. 18.20 „Braterstwo broni" — film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Fałszywe banknoty" — film fab. franc.-hiszp.-włoski. 21.55 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.20 „Sołowiow Siedoj i jego żołnierskie piosenki". 23.05 Sprawozdanie z Narciarskich Mistrzostw Swiata w Falun i halowych Mistrzostw Polski w LA.




**Piątek, 15 lutego**

8.00 Koncert. 15.30 Program dnia. 16.15 Program dla dzieci. 17.35 Komedia filmowa. 19.30 Spektakl.

**Sobota, 16 lutego**

7.00 Program dnia. 7.30 Program dla dzieci. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 12.00 Hokej („Skrzydła Rad" — „Dynamo"). 15.15 Filmy animowane dla dzieci. 15.45 Program sportowy. 17.30 Wieczór autorski E. Jewtuszenki.

**Niedziela, 17 lutego**

7.00 Program dnia. 7.30 Dla szkół. 9.00 Program dla dzieci. 11.15 Film fab. 16.15 Filmy animowane dla dzieci. 16.45 Program muzyczny. 17.30 Film dokument. 19.30 Audycja muzyczna A. Chaczaturiana.

Пачатак на стар. 1

# Аксюцічы

клепкі на бочкі, паркет. **Кузьмюк Фёдар** — на ўласнай дахаўчарцы робіць значную колькасць дахоўкі. **Кажухоўскі Фёдар** — добры муляр. У вёсцы ёсць таксама каваль. Старанліва ходзяць аксюцічане і пры зямлі, маюць многа машын, а некаторыя набылі ўжо і трактары. Кантрактуюць многа жыта і займаюцца гадоўляй, асабліва адкормкай свіней. З семнаццаці гаспадарак вёскі паступае на скупачныя пункты каля 300 кармнікаў у год.

У дамы аксюцічан аж прыемна зайсці — чысціня, лад, утульнасць. Многія маюць водаправод, а амаль у кожным — халадзільнікі, тэлевізары, пралькі, пыласосы. Тутэйшыя жанчыны ў гуртку вясковых гаспадыняў арганізоўваюць розныя курсы па хатняй гаспадарцы і нарыхтоўцы ежы. Нядрэнна дзейнічае тут і гурток ЗМВ. Ён цяпер рыхтуецца да адкрыцця свайго клуба **„Маладога гаспадара“.**

**Аксюцічы** — вёска згодная, але адно ёй не выйшла. Гадоў дзесяць таму назад задумала яна разам з суседнімі **Паўлавічамі** пабудаваць святліцу. Грамадскім чынам зрабілі падмурак, нарыхтавалі пустакоў, пачалі ўзводзіць сцены. І тут сканфузіліся — забылі адызаляваць фундамент ад сцен, г. зн. пакласці пласт толю (папы). Што ж, павятовыя будаўнічыя ўлады ўстрымалі будову, патрабавалі паправіць памылку. Патрабаванне слушнае, але яно так узбурыла будаўнікоў, што ад таго часу не заглядаюць на будову. Нішчэе матэрыял, а святліцы няма. Брыдка!.. Асабліва для такіх майстраватых людзей, як Аксюцічы і іх суседзі Паўлавічы.

Вёска электрыфікавана, мае прыпынак ПКС-у, добрую дарогу, пры пабудове якой унеслі свой значны ўклад самі сяляне. Ёсць таксама крама, а ў ёй... грамадскі тэлефон. Чаму якраз у краме? Яна ж адкрыта толькі ўдзень! А калі ў няшчасці ён спатрэбіцца ноччу? І гэта павінны для свайго дабра паправіць Аксюцічы з Паўлавічамі.

І ўсё ж Аксюцічы — мілая вёсачка з добрымі традыцыямі і спакойным, працавітым сённяшнім днём.

**Мікалай Гайдук**



*За прылаўкам у кнігарні пані Ніна Павільч.*

## ГАРАДОЦКАЯ КНІГАРНЯ

Добра заслужылася вясковаму асяроддзю на працягу 11 год сваёй дзейнасці кнігарня ў Гарадку Беластоцкага павету. На працягу існавання кнігарні нязменна працуе ў ёй пані Ніна Павільч. Яна сама з Гарадка.

Прыемна пабываць у кнігарні. Лад, чысціня і парадак у Доме кнігі. Ёсць багаты асартымент кніг на розныя тэмы і для наведвальнікаў усіх узростаў. У кнігарні вучні могуць купіць сабе падручнікі і пісьмовыя прылады.

Загадчыца кнігарні мае пастаянных наведвальнікаў, якія заходзяць за камплектамі кніг для сваіх дамашніх бібліятэк. Частыя госці гэта перш за ўсё прадстаўнікі мясцовай інтэлігенцыі: настаўнікі, лекары, а таксама вучні. Адсюль пачынаецца падарожжа кніг у бібліятэчныя кнігазборы ў школах. На працягу года кнігарня ў Гарадку прадае кніг у сярэднім на 140 тысяч злотых.

Пані Ніна Павільч і яе муж-настаўнік (часамі незамянімы памочнік) з'яўляюцца добрымі прапагандыстамі кніжкі. Даволі вялікім поспехам карыстаюцца ў Гарадку кніжныя кірмашы і латарэі. Шкада толькі, што няма на іх аўтараў кніг, якія давалі б свае аўтографы. Дагэтуль, як Гарадок Гарадком, не было тут нічога такога. Ваяводскаму прадпрыемству „Дом кнігі“ ў Беластоку арганізаваць такога роду мерапрыемства напэўна пад сілу. У Беластоцкім павеце па-за Беластокам ёсць толькі тры кнігарні: апрача Гарадка яшчэ ў Тыкаціне і Супраслі.

Замала бывае таксама аўтарскіх сустрэч у мясцовым гмінным доме культуры, у якім знаходзіцца таксама гмінная бібліятэка. А гэта спрыяла б рэкламе і папулярызацыі кнігі ў маламестачковым і вясковым асяроддзях. Гэта ўжо адрасуем да ўлад ваяводскай і павятовай публічных бібліятэк.

Даведаліся мы ў Гарадку пра дзіўны, на нашу думку, факт. Усе, не толькі тутэйшыя, ведаюць аб тым, што непадалёку ад Гарадка знаходзіцца падобнае мястэчка Міхалова. Усяго восем кіламетраў. Няма там кнігарні, але вось ніхто з жыхароў Міхалова і цэлай яго акругі не купляе кніг у кнігарні ў Гарадку. Ездзяць яны затое купляць кнігі ў Беласток. Адкуль гэта ўзялося, невядома.

Падсумоўваючы факты, неабходна сказаць аб тым, што дырэкцыя Ваяводскага прадпрыемства „Дом кнігі“ ў Беластоку належна дбае аб кнігарні. Гарадок таксама не можа наракаць. Пані Ніна Павільч на працягу адзінаццаці год сваёй працы сустракалася з удзячнасцю сваіх улад, з умелым падыходам да гандлёвых работнікаў па продажы кніжак. Найважнейшым аднак лічыцца тое, што дырэкцыя належна ацэньвае працу сваіх шматгадовых работнікаў, бачыць недахопы, але і дасягненні, творчую і разумную інвенцыю дзеля папулярызацыі вартасных выдавецтваў.

**Янка Цялушэцкі**
фота аўтара



*Муж пані Ніны Павільч — Уладзімір Павільч працуе настаўнікам у школе ў Гарадку. Вядзе ўрокі па фізіцы і практычных занятках. На гэты раз ён у ролі пакупніка. Яму, як кожнаму настаўніку, неабходна сачыць за выдавецкімі навінкамі ў галіне сваёй спецыяльнасці.*

## БГКТ хроніка

■ Жаночы харавы калектыў БГКТ з Гарадка пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы выступіў 26 студзеня з канцэртам у суседняй вёсцы Залукі з нагоды ўрачыстага адкрыцця там філіяла гміннай бібліятэкі.

■ 27 студзеня тэатральны калектыў гуртка БГКТ з Меляшкоў выступіў у Гарадку з п'есай Уладзіслава Галубка „Суд“.

■ Кшэсцян Краўц, галоўны рэдактар серба-лужыцкага дзіцячага часопіса „Пломіо“ ў ГДР, пяць дзён быў госцем „Нівы“. Разам з рэдактарам „Зоркі“ Янінай Чэрнякевіч пабываў ён у некаторых мясцовасцях Беласточчыны. 29 студзеня сустрэўся з моладдзю Бельскага беларускага ліцэя, а пасля ў Белавежы з калектывам песні і танца БГКТ, у якой прынялі ўдзел таксама намеснік старшыні і сакратар гайнаўскага аддзела БГКТ Мікалай Суліма і Віктар Бура. 31 студзеня Кшэсцян Краўц гасцяваў у Меляшках, дзе прысутнічаў на рэпетыцыі „Вясковых вечарынак“. Пастаноўка гэта створана самімі самадзейнікамі на аснове мясцовых звычаяў. На гэту сустрэчу прыехалі таксама старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і дзеячы культуры Гарадоцкай гміны. Шырэй чытачы прачытаюць аб гэтым у асобнай публікацыі.

■ 2 лютага наш літаратар Сакрат Яновіч правёў аўтарскія сустрэчы на Сакольшчыне — у клубе „Руху“ ў Піражках і падставовых школах у Астроўку і Крушынянах. На гэтых сустрэчах слухачы купілі шмат экземпляраў кніжак аўтара „Загоны“ з яго дэдыкацыяй.

■ Вечарам 2 лютага ў памяшканні ГП, куды сабралася вельмі многа людзей, гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку правёў песенны конкурс БГКТ. Выступілі 29 асоб, у тым ліку 11 салістаў, 4 дуэты і 2 вакальныя калектывы. Сярод салістаў першае месца заняла Люба Гаўрылюк, другое — Аліцыя Хаванская і трэцяе — Галіна Тарасевіч. Сярод дуэтаў журы прызнала першае месца сёстрам Любе Гаўрылюк і Яўгеніі Мінько. Другога месца журы не прызнала. Два трэція месцы падзялілі дуэты Янкі Младзяноўскага і Яўгена Матвеюка, а таксама дуэт Ірэны Адамюк і Веры Міхалюк. У катэгорыі вакальных калектываў першае месца заняў калектыў мясцовага гарадскога аддзела БГКТ, а другое месца — калектыў з аддзела ВСС у Беластоку. Пераможцам старшыня аддзела Мікалай Гайдук уручыў рэчавыя ўзнагароды, прызнаныя Галоўным праўленнем БГКТ і аддзелам ВСС. Найлепшыя выканаўцы песень прымуць удзел у фінальным песенным конкурсе БГКТ.

■ Тыя праўленні аддзелаў, у якіх адбыўся ўжо песенны конкурс, прыступілі да падрыхтоўкі конкурсу тэатральных калектываў БГКТ. (мх)

## ІЛЬЯ ЗАХАРАВІЧ БЕРНАТ



Спынілася высакароднае настаўніцкае сэрца. 27 студзеня 1974 года памёр **Ілья Захаравіч Бернат** — заслужаны шматгадовы настаўнік роднай мовы і выхаваўца моладзі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім.

Нарадзіўся І. З. Бернат 10 лістапада 1897 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Мшаніца, Тарнапальскай вобласці на Украіне. Пасля заканчэння пачатковай школы ў родным сяле вучыўся ў сярэдніх школах Тарнопаля і Чарткова, дзе і закончыў у 1923 годзе настаўніцкую семінарыю. У тым жа годзе прыязджае на Навагрудчыну і ўсё сваё жыццё прысвячае навучанню беларускіх дзяцей. На працягу 14 год працуе ў вясковых школках у Пачапаве, Асташыне і Касцюках у тагачасным Навагрудскім павеце. Нялёгкія гэта былі гады. Часцей чым інспектар, кантралявала працу настаўніка гранатовая паліцыя, падазраючы яго ў камуністычнай прапагандзе і робячы закіды за тое, што ён прывівае ў дзяцей любоў да беларускай мовы і культуры, сябруе з сялянамі, мае ў сваёй прыватнай бібліятэцы беларускія кнігі, сам іх чытае і пазычае іншым. Іменна за гэта ў 1937 годзе асветныя ўлады гоняць І. З. Берната на „перавыхаванне“ ў школу ў вёсцы Блоге Жондовэ, Апачынскага павету, Келецкага ваяводства. У першыя дні вайны 1939 года ён усё ж вяртаецца на Навагрудчыну і ўжо пры Савецкай уладзе працуе ў беларускай сярэдняй школе ў Навагрудку, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці горада. Цяжкія гады гітлераўскай акупацыі І. З. Бернат перажыў у Навагрудку, а пасля вызвалення пераехаў на Беласточчыну. І зноў пачаў настаўнічаць. Працаваў у Стрыках, Мокрым, Райску, Бельскага павету, а з 1 верасня 1950 года і да 1 верасня 1968 года настаўнікам беларускай мовы ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. Імкнецца паставіць на высокім узроўні навучанне роднай мовы ў ліцэі, і павеце, клапоціцца аб павелічэнні беларускага кнігазбору ў школьнай бібліятэцы і забеспячэнні вучняў падручнікамі па беларускай мове і літаратуры. Сваім багатым педагагічным вопытам дзеліцца з настаўнікамі Бельскага павету, працуючы ў аддзеле асветы інструктарам беларускай мовы. Адначасова ўваходзіць у склад камісіі па апрацаванню праграм навучання беларускай мовы пры Міністэрстве асветы і ўдзельнічае ў складанні і ўдасканальванні першых праграм для пачатковых і сярэдніх школ па гэтаму прадмету. І ўвесь час займаецца паглыбленнем сваіх ведаў, нават і пасля таго, калі ў 1955 годзе атрымаў кваліфікацыі настаўніка сярэдняй школы.

Быў самаахвярным актывістам Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Быў надзвычай працавітым і патрабавальным да сябе чалавекам, узорам саліднасці і добразычлівасці. Карыстаўся вялікай пашанай і аўтарытэтам у школьнай моладзі за сваю прынцыповасць і добрае сэрца. Усяго сябе аддаваў прывіванню ў маладога пакалення любві да роднай мовы і культуры. З пашанаваннем адносіліся да яго калегі-настаўнікі і бацькі вучняў.

За вялікія заслугі ў навучанні беларускай мовы наша дзяржава адзначыла яго Залатым Крыжам Заслугі.

З глыбокім смуткам праводзілі свайго дарагога настаўніка і прыяцеля ў апошнюю дарогу яго былыя вучні — навуковыя працаўнікі Варшавы і Беластока, інжынеры, лекары, педагогі, дзеячы культуры, журналісты, сябры-настаўнікі, моладзь Бельскага агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання. І хоць гэта быў халодны студзеньскі дзень, яго магілу на праваслаўных могілках у Беластоку ўслалі жывыя каліі, гваздзікі і пунсовыя ружы, а з шарфаў вянкоў шапталі словы: „Дарагому настаўніку роднай мовы...“

Памяць аб Ільі Захаравічу Бернаце застанецца вечна жывой у нашых сэрцах.

## Моладзь і клубы

Цэнтрамі культурнай працы ЗСМВ на вёсцы з'яўляюцца клубы „Рух“ і клубы селяніна, якіх налічваецца ў нашым ваяводстве каля 600, а таксама святліцы (200).

Члены ЗСМВ прымаюць удзел у грамадскіх чынах пры пабудове ці рамонтах будынкаў, прызначаных на клубныя памяшканні. Зрабіла гэта моладзь з Сухавольцаў Гайнаўскага павету, з Алексіна Бельскага павету і Вількасаў Алецкага павету. Вельмі часта моладзь працавала пры рамонце мэблі і клубных прылад.

Характэрна, што моладзь ЗСМВ штораз часцей у клубах арганізуе выстаўкі рэгіянальнага народнага мастацтва. Часта, як, напрыклад, у Бакінах Лапскага павету ці Смольніках Сувальскага павету, народнае мастацтва служыць у якасці дэкарацыі клубнага памяшкання, а гурток ЗСМВ у Карыціне Сямяціцкага павету і ў Пшэрослі Сувальскага павету маюць багатыя рэгіянальныя ізбы ў клубных памяшканнях. Вельмі гэта карысная і вартая распаўсюджання справа. (ак)

(Працяг са стар. 1)

## БЕЛАСТОК – ЭЛК – ЛОМЖА – БЕЛЬСК...

кафейкі — вось што патрэбнае Гайнаўцы і што яна атрымае.

Саколка, Сямяцічы і падобныя ім гарады надалей застануцца цэнтрам павятовай улады. Там будуць абсталяваны філіялы буйных прадпрыемстваў агульнадзяржаўнага значэння і невялікія фабрыкі, напрыклад, абутковая ў Сямяцічах, або будаўнічай сталяркі ў Саколцы. Асаблівая роля ў актывізацыі гэтых гарадоў адводзіцца спулдзельчым арганізацыям і мясцовай прамысловасці, якая будзе выкарыстоўваць сыравіну, што знаходзіцца ў наваколлі.

Яшчэ меншыя гарадскія пасёлкі, такія, як Нараў, Нараўка, Орля, Мілейчыцы, будуць служыць базамі тавараабмену для навакольных вёсак. Гэта таксама культурныя цэнтры гміннага значэння.

У гарадах Беласточчыны да 1980 года будзе пабудавана 38 тысяч жылых кватэр. Ці сярод іх знайшлося б памяшканне для майго швагра — гадаць мне цяжка, бо ў гэтай галіне, як паказваюць дакументы, патрэбы вельмі вялікія. Пра гэта аднак пагаворым шырэй іншым разам.

**Максім Нурэцкі**

(Працяг са стар. 1)

## МАЙСТАР

абазначае больш чым 30 цэнтнераў з га, (калі сярэдняя ваяводская — 22,9 цэнт.), аўса — 300 цэнтнераў з гектара (сярэдняя ваяводская — 226).

Не ўсе ў Дубне маюць такія вынікі. Не ўсе нават вераць Мальцу.

— Няраз даводзілася мне чуць, — гаворыць гаспадар, — што быццам бы такія плёны, як у мяне, гэта чыстая выдумка. Папера ўсё вытрымае, пагаварвалі песімісты. У гэтым годзе задумаў я рабіць усё, што датычыць жыта, на вачах суседзяў. Ведалі, колькі я засеяў жыта, і ў час малацьбы на вачах усіх я важыў змалочанае. Тут сумненняў не магло быць. Паверылі.

— А ў чым таямніца высокіх ураджаяў? — пытаю гаспадара.

— Ворыва, глыбокае ворыва — гэта адзін з вельмі важных, але часта ігнараваных спосабаў апрацоўкі зямлі. Я, напрыклад, як наймаю трактар у „кулку“, дык адразу прашу, каб аднялі адну адкладню ў плузе, каб было глыбейшае ворыва. Гэта каштуе даражэй, але дае вышэйшы ўраджай. Не ведаю, чаму ў нас яшчэ недаацэньваецца гэты просты спосаб апрацоўкі зямлі...

Зімовая, больш свабодная пара спрыяе размове. Крыху адыходзім ад тэм сённяшняга дня, закранаем мінулае.

— У „спулдзельні прадукцыйнай“ быў я брыгадзірам. З гэтай нагоды часта ў полі і дома прабываў з нашым аграномам. Я любіў яго, бо ён шмат ведаў з галіны сельскай гаспадаркі, а мяне ён любіў бадай за тое, што я цікавіўся ўсім гэтым. Вось з тых часоў у мяне і асталося многа такіх спраў, якія ўводжу ў сваёй гаспадарцы. О-о-о, гаспадарка гэта таямнічая і складаная рэч. Вельмі люблю і родную прыроду. Мая замужняя дачка жыве ў Варшаве. Езджу туды часта, але пасля двух-трох дзён пабыўкі не магу там ужо вытрымаць, хочацца на вёску, да сваёй прыроды, натуральнай.

У Сцяпана Мальца ёсць яшчэ справы, якія ён не да канца разумее або не да канца з імі згаджаецца. Напрыклад, калісьці машыны былі ў „кулку“ на месцы, зараз — за машынамі трэба хадзіць і траціць час аж у далёкія Боцькі. Малец не супраць ідэі „баз машыновых“, але супраць такой арганізацыі працы.

Іншая справа — купля зямлі ПФЗ. Тутэйшыя гаспадары хацелі купіць ад дзяржавы каля 35 гектараў зямлі. Зрэшты, апрацоўвалі, маючы яе „на ўмовах“, бо ў Дубне гаспадары малазямельныя. Лічылі, што з нагоды рэгуляцыі ўласнасці і згодна з указаннямі ў гэтай галіне стануць поўнапраўнымі гаспадарамі. Нават сам Малец пісаў у гэтай справе і ў павет і ў ваяводства. Улады адмовіліся прадаць. Аддаюць гэта „кулку“, а купіць можна толькі тыя кавалачкі (і то іх вельмі мала), якіх не хоча браць сельгасгуртоk.

— Але сёння, — гаворыць на развітанне С. Малец, — створаны гаспадарам такія ўмовы, што каб толькі хацеў, то можна добра жыць і гаспадарыць.

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара



*Харошча. Аднаўленая даўняя летняя рэзідэнцыя Браніцкіх з прызначэннем на будучы музей барока.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Ці дарослы сын можа патрабаваць ад бацькі выдзеліць яму пры жыцці бацькі частку гаспадаркі? У даным выпадку сын мае 40 гадоў і ўвесь час працаваў на гаспадарцы, а бацька больш 10 год няздольны да працы і пражывае ў горадзе.

АДКАЗ: Сын пры жыцці бацькі, які жыве на гаспадарцы, не можа набыць ніякіх правоў да гаспадаркі, незалежна ад таго, колькі год сын працаваў на гэтай гаспадарцы. Аднак, калі б бацька не знаходзіўся на гаспадарцы, а гаспадаркай поўнасцю займаўся сын, ён мог бы набыць уласнасць на аснове закону з 26.X.1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці на сельскія гаспадаркі. Справу гэту вырашае прэзідыум павятовай рады нарадовай. Калі бацька не мае ўласных сродкаў да жыцця, можа быць пры гэтым устаноўлена права бацькі да атрымоўвання ад сына пажыццёвага ўтрымання.




## Куды я трапіў?

Не мела баба клопату — купіла парася. Так і ў мяне з роляй вашага карэспандэнта. Усё не так, як думаў, і чую — дабром не кончыцца. А тут і вы дулю паказалі. Бо як вытлумачыць той факт, што абмінулі мяне ў спіску карэспандэнтаў года? Ларса, нябось, уставілі. А чым яго гарадоцкая званіца важнейшая за задрыпанскія вароты? Ну, і задрыпанцы зрабілі вывад: ужо ў рэдакцыі з нашым Данілам не лічацца, настаў зручны момант даць яму пакурыць.

Лупцавалі сардэчна. І каб не думаў, што б'юць дарма, прыпаміналі грахі: Кастусь — асаблівую ўвагу да яго асобы, Парфен — недастатковую ўвагу, Харытоніха — зганьбаванне першароднага („Жарабца“), а Гапка — тэндэнцыйнае прадстаўленне пражскага важжу.

Так выглядала сустрэча вашага карэспандэнта з чытачамі (ці вашы любіцелі мелі такія „вечары“?).

Вядзьмярскі шабас закончыўся прыняццём рэзалюцый. Кастусь прапанаваў выбраць новага карэспандэнта і на гэту пасаду вылучыў сваю кандыдатуру. Парфен аднак даказаў, што такое рашэнне было б няправільным, бо выдавала б асабістыя зацікаўленні крытыкуючых (а мы ж дубасілі Данілу не з асабістых матываў, а з грамадскага інтарэсу).

Паколькі іншых кандыдатур не было, задрыпанцы больш не падвяргалі сумненню маральных кваліфікацый вашага карэспандэнта, а вялікадушна дазволілі яму выправіць свае памылкі. Бяры, Даніла, раўненне на найлепшых (бачыце!) — павучалі. Сцярпеў, бо і што меў рабіць, калі сярод кагорты вашых карэспандэнтаў года (значыць, найлепшых), не знайшлося месца для мяне.

А задрыпанцы, пачуўшы маю слабасць, ставілі ўсё больш вар'яцкія патрабаванні. Учапіліся шыльды. Скрыжаваныя дошкі, што на першым плане, абавязкова зняць. Гэта яўны паклёп на Задрыпанку: маўляў, глухамань дошкамі забітая. А ў нас жа вароты насцеж! Эманальная палітыка!

Парфенаў Колька, які якраз завітаў у Задрыпанку і трапіў на разбор шапак, падтрымаў землячкоў.

— Нам патрэбен культ Задрыпанкі! — аўтарытэтна заявіў варшаўскі доктар і, пераняўшы ход падзей у свае рукі, аб'явіў творчы конкурс на праект новай шыльды. Старую ён адкідаў не толькі з-за дошак, але і назвы, якая, на яго думку, ужо ў сваёй канцэпцыі насіла зародак антыданілаўскага бунту (во, як падсумаваў!), бо выклікала чужую задрыпанцам, канфідэнцыяльную адрыжку старасвеччыны („Ліст“, як данос, „Ваш“, як асведаміцель). Ці пад такой харугвай згуртуем шмат прыхільнікаў? Ці пераможам згубнае для нас пачуццё прыніжанасці?

Трапляў у неданошаныя імкненні задрыпанцаў і паскараў крысталізацыю поглядаў. Вось ён, плён творчых пошукаў: „Задрыпанскія гоні“ (старшыня сельгасгуртка), „Задрыпанскі гамец“ (солтыс), „Задрыпанская хроніка“ (старшыня гуртка БГКТ), „Задрыпанская заранка“ (настаўніца), „Задрыпанская вясёлка“ (крамар), „Задрыпанскі кур'ер“ (Гапка), „Задрыпанскі веснік“ (Харытоніха), „Задрыпанскі мурашнік“ (Парфен) і „Задрыпанскі чысцец“ (Кастусь).

Колька ацаніў вынікі конкурсу высока, падкрэсліваючы шырокія гарызонты і вынаходніцкую жылку задрыпанцаў, але прапанаваў змясціць на шыльдзе адно слова: „Задрыпанка“. У ім усё, даказваў, наш сум і наша радасць, нашы будні і наша будучыня. І каб не пакрыўдзіць вызваленых амбіцый задрыпанскіх праекціроўшчыкаў, прапанаваў уключыць у пуцяводную шыльду рацыянальныя элементы іх вынаходніцкага духу.

Ён тут і накрэсліў праект. Над зямным шарам, на фоне прамяністага (эманальнага) сонечнага шчыта наш мурашнік. У касмічным вакууме штыкецістыя літары святое святых.

Задрыпанцы згадзіліся, што такая шыльда больш уздзейнічае на іх уяўленні і лепш паказвае месца Задрыпанкі ў гміне.

Праект павінен я выслаць у рэдакцыю дзеля мастацкага афармлення. А яшчэ пастанавілі, каб я, замест „Ваш Даніла“, падпісваўся „ДЗЗ“ (Даніла з Задрыпанкі). Так зашыфраваў мяне Парфен. Кажа, шыфраваў нас, зашыфруем і яго. А то выставіўся! Больш скромнасці, цяпер культ Задрыпанкі.

Дык куды я трапіў?

**ДЗЗ**

Ад рэдакцыі: Не бядуй, дзядзька. Трапіў ты на гасцінец летапісцаў. Дасылай праект новай шыльды, ідэя нам падабаецца.




## НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦЁТКА — ЧАСТКА III

У 1908 годзе Цётка пакінула Закапанэ і накіравалася ў Кракаў. У гэтым слаўным сваім універсітэтам горадзе Цётка вырашае паглыбляць сваю адукацыю. Паступае яна на гісторыка-філалагічны факультэт. Дасканала ведае польскую мову і таму не мае цяжкасцей як на лекцыях, так і ў кантактах з польскімі студэнтамі. Цікавіцца Цётка не толькі навуковымі працэсамі, дыдактыкай, навукай, але і грамадскімі справамі, а асабліва студэнцкім рухам. Увайшла яна ў кантакт з радыкальнай студэнцкай арганізацыяй „Спуйня“, якая абапірала сваю праграму на сацыялістычныя ідэі.

У той час у Кракаўскім універсітэце знаходзіцца значная колькасць студэнтаў літоўскага паходжання. З студэнтамі-літоўцамі Цётка сустрэлася яшчэ ў перыяд прабывання ў Вільні. Імкненне літоўцаў да нацыянальнага і сацыяльнага вызвалення выклікала, зразумела, гарачую сімпатыю з боку Цёткі. Сустрэўшы ў Кракаве добра арганізаваную групу студэнтаў-літоўцаў, Цётка знайшла ў дзейнасці гэтай групы сугучныя сваім перакананням і імкненням ідэі. Зрэшты, збліжэнне з літоўцамі мела і іншы, выключна асабісты аспект. Сярод літоўцаў знаходзіўся Кейрыс, з якім звязвала Цётку пачуццё кахання.

Прабываючы ў Львове, Закапаным і Кракаве, Цётка знаходзілася ў выключна цяжкай матэрыяльнай сітуацыі. Не маючы сродкаў на ўтрыманне і навуку, Цётка была прымушана займацца рознымі прафесіямі. Мусіла такім чынам здабываць грошы, неабходныя для жыцця, навукі і лячэння. Знайсці працу ў той час было нялёгка. І таму Цётка — чалавек дынамічнага характару займаецца такімі рознымі прафесіямі, як актрыса, медсястра, масажыстка, служанка і г.д. Усе гэтыя заняткі давалі вельмі малы даход і перашкаджалі ў навуцы. Зрэшты, Цётка ніколі не перастала думаць аб вяртанні на Беларусь. Нягледзячы на небяспеку арышту, у пачатку 1910 года Цётка пакідае Кракаў і вяртаецца ў Расійскую Імперыю. Пераязджае ў Вільню, якая была ў той час цэнтрам беларускага нацыянальнага руху. У лютым 1911 года Цётка выходзіць замуж за літоўца Сцяпана Кейрыса, які быў дзеячом сацыял-дэмакратыі Літвы. Ці гэты крок быў абсалютна згодны з рытмам сэрца Цёткі, сказаць цяжка. Некаторыя з даследчыкаў гавораць, што Цётка кахала беларускага паэта Купалу. Была аднак старэйшай за Купалу. Зрэшты, маглі быць і іншыя прычыны таго, што Цётка і Купала ніколі не сталі жонкай і мужам.

Вярнуўшыся ў Расію, Цётка акунаецца ў кіпучую дзейнасць на беларускай ніве. Працуе ў „Нашай ніве“. Прымае актыўны ўдзел у стварэнні сялянскага беларускага часопіса „Саха“ і часопіса для беларускіх дзяцей „Лучынка“. Нягледзячы на грамадныя цяжкасці, Цётка арганізоўвае сродкі на выдаванне беларускай перыёдыкі, піша артыкулы, лісты, прадаўжае займацца паэзіяй і прозай. У поўным значэнні гэтага слова з'яўляецца душой беларускага руху. Прабывае ў Вільні, Мінску, Пецярбурзе. Кантактуецца з беларусамі, збірае сродкі і гуртуе людзей, аддадзеных свайму краю.

У пачатку 1914 года Цётка едзе ў Фінляндыю і Швецыю. Прабыванне ў гэтых краінах пакідае глыбокі след у нацыянальнай душы паэтэсы.

У тым жа 1914 годзе пачынаецца першая сусветная вайна. Цётка, не перастаючы займацца беларускімі справамі, пачынае працаваць як сястра міласэрдзія. Дапамога ахвярам вайны пачынае для Цёткі быць першапланавым заданнем. З асаблівым энтузіязмам займаецца Цётка дзецьмі і старымі.

У студзені 1916 года Цётка атрымлівае вестку аб смерці бацькі. Зараз жа выязджае ў Стары Двор. Праўдападобна, у дарозе заражаецца страшэннай хваробай — тыфам. Памірае ноччу шостага лютага 1916 года.

 

# Крама ў Спічках

Яна змяшчаецца ў мураваным будынку. Будынак гэты быў адрамантаваны паўтара года таму назад. Прадаўшчыцай з'яўляецца Марыя Себясевіч. Гэта вельмі прыстойная і сімпатычная жанчына. І ўмее працаваць! Жыхары нашай вёскі вельмі задаволены, што за пакупкамі не трэба ездзіць у Орлю, ці Бельск.

Тавары ў краму прывозяць самаходам з Орлі некалькі разоў у тыдзень. У кожную сераду і пятніцу ў Спічкі давозяць свежы хлеб. Часта прывозяць таксама каўбасу. Ёсць тут цукеркі, шакалады, віно, піва і іншыя тавары.

ГС забяспечвае краму вельмі добра. Адкрыта яна штодзённа, апрача нядзелі, ад шостай гадзіны раніцы да трэцяй гадзіны пасля поўдня. І гэтым жыхары нашай вёскі незадаволены. На сходзе яны дамагаліся, каб крама была адкрыта дзве ці тры гадзіны рана і столькі ж часу ўвечары. Тады ім было б намнога зручней.

**Васіль Асеннік**

# Плюшовая прадукцыя

Усе дзеці любяць цацкі. Можа, нават не менш, чым сваіх тат і мам. Цацкі служаць дзецям не толькі для забавы, дзякуючы ім хутчэй знаёмяцца яны з цэлым акружаючым іх светам.

У Беластоку прадукцыяй цацак займаецца вытворчае прадпрыемства „Промот“, заснаванае на базе ранейшага кааператыва пад цікавай назвай „Недзвядэк“. Выпускае яно на рынак маленькія цуды: розных памераў і колераў звяркоў і птушак. У асноўным найбольш „мішак“. Праца пры іх прадукцыі нялёгкая. Найперш майстры-эксперыментальшчыкі распрацоўваюць новыя ўзоры, або, як мы кажам, арыгіналы. Пачынаецца ўсё ад пошукаў і фантазіі. Пасля, калі камісія дасць дазвол „на жыццё“, тыя ці іншыя ўзоры паступаюць у серыйную прадукцыю.

Кожны год прадпрыемства дае прадукцыю цацак на агульную суму 14 мільёнаў злотых. Палавіна гэтай прадукцыі ідзе на экспарт. Беластоцкія цацкі карыстаюцца вялікім поспехам у замежнай дзетвары ў Аўстрыі, Венгрыі, Югаславіі, Нарвегіі і іншых краінах свету.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*З гатовымі вырабамі „мішкамі“ знаёміць нас Марыя Сайда.*

# ФАЛЬКЛОР

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




*— Чом ты, коню, воды ні п'еш?*
*Чы дорожку чуеш?*
*Чом ты, сынку Ясюленьку,*
*Дома ні начуеш?*
*— А як жэ ж мне, мая маці,*
*Дома начаваці?*
*Пасцель, бела, сцяна нема —*
*Не з кім размаўляці.*
*Пасцель бела, сцяна нема —*
*Не з кім размаўляці.*
*— Купі, сынку Ясюленьку,*
*Коня варанога.*
*А як пойдзеш да стаенкі —*
*Гавары да ёго.*
*А як пойдзеш да стаенкі —*
*Гавары да ёго.*
*— Як я войду да стаенкі —*
*Гавару — ён ні гаворыць.*
*А як успомню аб дзяўчыне,*
*Сэрца-душа баліць.*
*А як успомню аб дзяўчыне,*
*Сэрца-душа баліць.*

Ад Варонка Анелі, 75 год, і Варонка Тэафіліі, 75 год, вёска Снічаны, гміна Сідра, Сакольскага павету, запісаў 27 снежня 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# З маёй званіцы

**(У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ)**

**Адказвае:**

**„KARO” — ZAKŁADY PRZEMYSŁU DZIEWIARSKIEGO W SIEDLCACH.**

W odpowiedzi na pismo z dnia 30.X. 1973 r., przesłane do naszych zakładów łącznie z felietonem, krytykującym tryb załatwiania spraw, związanych z wypłatami zasiłków chorobowych na opiekę nad chorym dzieckiem wyjaśniamy, że przedsiębiorstwo pozostaje zgodne z obowiązującymi w tej mierze przepisami.

Obywatelka Kozioł Maria we właściwym czasie otrzymała wynagrodzenie za wszystkie dni opieki nad chorym dzieckiem, stwierdzone na druku L-4, w dowód czego załączamy odpis „karty zasiłkowej”.

Uważamy, że drukując taki felieton, należało mieć sprawdzone fakty. Z uwagi na to, że wspomniany wyżej felieton bezpodstawnie skrytykował nasz zakład, prosimy o oficjalne przeproszenie na łamach gazety „Niwa” i podanie nam do wiadomości.

**Z-ca Dyrektora**
**do Spraw Technicznych**
**inż. Wiesław Nalberski**

## Не ведае правая, што робіць левая

Звычка, ведаеце, пане дырэктар, у газеце такая, што ўсе адказы на інтэрвенцыі абавязкова публікуюцца. Адказ, аднак, вашага прадпрыемства вымагае адпаведнага каментарыя.

Забыліся вы, што з далёкіх Седлец вам не заўсёды відна, што ў якойсьці там філіі ў Гарадку творыцца. Разглядаць людзей і іх праблемы на паперках, якія вам прысылаюць, гэта тое самае, што з мутнай вады варажыць. Усё ж нават, у тыя самыя паперкі глянуўшы, дзе што зразумець можна. Тым больш, што перада мною акрамя іх і гісторыі хваробы малалетніх Аліны і Эвы Казёл.

Ні слова няма, напрыклад, у прысланай Вамі карце пра выплату за апеку над малой Алінкай за дні 29.XI. — 3.XII.1971 г. Уявіце сабе, што ад таго часу дзіцятка тое да 23.VIII.73 г. ані разу не хварэла. Рэдкае, ведаеце, здароўе. Таксама яе малодшая сястрычка Эва, пахварэўшы ў пачатках 1972 года, больш чым на год перастала смэркаць, кашляць і наогул на што-небудзь скардзіцца. Ну ці ж не цуд?

Калі яшчэ ўзяць пад увагу тое, што гутарка з Марыяй Казёл адбылася ў пачатках верасня 1973 г. і што я асабіста інтэрвеніяваў у аддзеле кадраў фабрыкі „Каро“ ў Гарадку, то ўжо ёсць сапраўды над чым задумацца. Мне самому, а не каму іншаму панечкі ў кадрах сказалі, што плаціць яны не абавязаны і ў ніякім выпадку не заплацяць. Толькі даведаўшыся, што артыкул будзе ў газеце, адумаліся. За тры друкі гуртам, бачыце, выплацілі. Законы, гляньце, зміласцівіліся праштудзіраваць. А „Ніва“, зразумейце, тыднёвік. Матэрыял некалькі тыдняў наперад рыхтуе. Праляжаў фельетон у рэдакцыі і вось маеш табе, не толькі заплаціць паспелі, а нават абурацца маюць права.

Вы б толькі, шаноўны пане дырэктар, працаўніц аддзела кадраў спыталі, скуль гэта яны, вось так адразу вырашылі, што гутарка ў артыкуле пра Марыю Казёл. Прозвішча ў фельетоне не было. Яго нават рэдакцыя не ведала. А яны, маеш табе, паваражылі, пачаравалі і якраз яе дакументацыю нам выслалі. Гэта нават не кожны, хто з рагамі, казлом адразу называецца. Між іншым, нават будучы ў іх, асабіста я прозвішча не ўспамінаў ніякага. Не дзівота, што кажуць людзі: „У стол трэсні, а ножніцы акажуцца“. Вы будзеце, любенькі, калінебудзь на інспекцыі ў Гарадку, паклічце ўспамянутую Марыю. Яна вам яшчэ і не тое скажа. А з Седлец усяго не ўгледзіш, нават у тэлескоп, а што казаць, толькі ў паперкі вочы ўпяліўшы.

**Ларс**

# АБАРОНЦА ДЗЯЦЕЙ



Для Вольгі Гурскай з Міхалова 1974 год знамянальны. У гэтым годзе спаўняецца ёй 70 год і 20 год грамадскай працы як судовага куратара непаўналетніх дзяцей. Ужо шмат гадоў апякуецца яна дзецьмі пакінутымі, пакрыўджанымі, занядбанымі маральна, схільнымі да злачынстваў. Усё робіць, каб лёс дзяцей быў лепшы, каб на іх вуснах была ўсмешка, каб маглі з іх вырасці добрыя грамадзяне. Прыходзіцца ёй часта сустракацца са сваімі падапечнымі, весці з імі выхаваўчыя размовы, а таксама размовы з іх бацькамі. У вялікім скарачэнні пакажам у гэтай публікацыі дзяцей, якімі займалася Вольга Гурская, пакажам сем'і гэтых дзяцей і ўмовы іх жыцця.

**Бацькі шасцярых дзяцей.** П'юць у іх сям'і пакуль што двое — бацька і маці. Бацька свайго часу быў настаўнікам. Але ж, зразумела, п'яніца не можа быць выхавацелем падрастаючага пакалення. Выгналі яго з асветы. Пачаў ён працаваць на тэкстыльнай фабрыцы. Быў нават свайго роду спецыялістам, бо нейкі час працаваў ткачом. Але піў. Пагналі яго і з фабрыкі. Калі б толькі піў ён сам, дык было б яшчэ, як кажуць, паўбяды. Але жонка надта ж часта ў бутэльку заглядае. І таксама не працуе, ды працаваць хоча толькі там, дзе наліваюць піва ў бутэлькі, але яе там, на жаль, не хочуць. У іх шасцёра дзяцей. Увесь цяжар выхавання шасцярых дзяцей звалены на бабулю і дзядулю, якія не могуць глядзець на галодных унукаў і іх бесталковых бацькоў — і як могуць, так кормяць і даглядаюць іх.

Вольга Гурская звярнулася ў аддзел грамадскай апекі, каб адтуль атрымаць дапамогу для гэтых дзяцей.

**Бацькі Рэгіны.** Бацька сляпы, а маці бесталковая. Жывуць на вёсцы, на гаспадарцы. Бацька многа працуе. Але яго трэба давесці да месца працы і дапамагчы. Робяць гэта дзеці. І бацька любіць сваіх дзяцей. Бяда толькі з маткай. Зненавідзела сваю дачку Рэгіну. Горш яе карміла, прымушала больш працаваць і амаль штодзень яе біла. Умяшалася пані Гурская, яна „вырвала“ дзяўчынку з мацярынскай няволі і аддала ў дом дзіцяці.

**Данута і чацвёра малодшых.** Маці пакінула іх маленькімі. Пасля яе смерці бацька стаў піць і зацікавіўся іншай жанчынай. Жылі на калоніі. Не жылі, а мучыліся. Дзецям есці хацелася. Бацька аднак далей піў, лавіў сабак і карміў дзяцей сабачым мясам. Дзякуючы пані Гурскай Дануту і яшчэ чацвёра дзяцей забралі ў дом дзіцяці.

**Сірата Крыся.** Асталася яна поўнаю сіратою. Пасля смерці маткі на выхаванне забрала Крысю яе родная бабуля. Але бабуля часценька співалася і страшэнна крыўдзіла Крысю. Біла моцна па руках, калі дзяўчынка не выконвала п'яных і неразумных яе загадаў. Бабулі было добра з Крысяй. Тая, хаця і была малая, ваду насіла і дровы, і ўсё што трэба ў хаце рабіла. Ды яшчэ ў школу хадзіла. Бабуля не хацела аддаваць Крысю ў дом дзіцяці. Пані Гурская забрала дзяўчынку пры дапамозе міліцыі. Цяпер жыве яна ў доме дзіцяці. Вясёлая і задаволеная.

**Зло родзіць зло.** Дзіцё, якое з малых год жыве ў нялюдскай атмасферы, прасякае ёю, становіцца цынічным. Трынаццацігадовы Янэк не хацеў вучыцца. У школу хадзіў толькі адзін год. Курыў папяросы і пачаў піць гарэлку.

Пані Гурская многа разоў гаварыла з ім і з яго бацькамі. Нічога гэта не давала. Бацькі даказвалі, што гэта не яе справа, што ён быў добры хлапец, а самі ж горкія п'яніцы...

І вось нядаўна падгаварыў Янку дзевятнаццацігадовы хлапец, які раней у „папраўчаку“ быў і разам яны абакралі краму, адкуль набралі гарэлкі, папяросаў і іншых тавараў. Здаецца, што цяпер і Янэк пойдзе ў „папраўчак“. Можа, там яго навучаць жыць...

**З намовы каханкі.** Бацька з маткай пражылі 27 гадоў. Бацька часта біў матку, выганяў з хаты. Начавала яна ўсюды, нават на могілках. Урэшце выгнаў яе зусім і прывёў у хату каханку. Двух непаўналетніх сыноў прымушаў многа працаваць пры вырабе дахоўкі. Калі каханка перастала даваць хлопцам есці, пачаліся ў хаце страшэнныя сваркі. Аднойчы бацька нават моцна апарыў сыну руку...

Старэйшы сын пры дапамозе пані Гурскай знайшоў працу ў Клеасіне, малодшы паступіў у рамесную школу і атрымаў 519 зл. стыпендыі. Калі бацька даведаўся аб гэтым, усё пачаў рабіць, каб не далі стыпендыю яго сыну. І дабіўся гэтага. Хацеў ён далей мець у сябе бясплатнага рабочага пры вырабе дахоўкі. Дзякуючы пані Гурскай, хлопец вучыцца ізноў, а бацька вымушаны плаціць за інтэрнат.

**Падзяка.** Грамадская праца пані Гурскай даволі няўдзячная. Выпраўляць душы, скрыўленыя вельмі часта родным домам, бацькамі, або рознымі іншымі абставінамі, не так лёгка, а часам і непрыемна. Але не заўсёды. Не так даўно заехаў да яе былы падапечны з Лукі, судовым куратарам якога яна была. Шчыра дзякаваў, што дапамагла яму стаць чалавекам. Ён ужо адслужыў у войску і працуе цяпер на адным з прадпрыемстваў у Беластоку.

Пані Гурская мае шмат дыпломаў, у якіх падкрэсліваецца яе самаахвярнасць у грамадскай працы. Была яна 4 кадэнцыі (ад 1954 да 1969) раднай павятовай рады народовай. Узнагароджана Сярэбраным крыжам заслугі і адзнакай 1000-годдзя Польскай дзяржавы. Яна ўжо на пенсіі, аднак далей працуе на карысць грамадства.

**Міхась Хмялеўскі**

# Радная зямля мякчэй чужой пярыны



 

БУДАЎНІЧЫЯ ПАРАДЫ

# ДОБРЫ ХЛЕЎ



Карыстаючыся „Каталогам праектаў сельскагаспадарчага будаўніцтва ў Беластоцкім ваяводстве“, прапанавалі мы дагэтуль розныя праекты жылых дамоў. Цяпер хочам зацікавіць вас **інвентарскімі будынкамі,** перш за ўсё **хлявамі і аборамі.** Трэба ж памятаць, што жывёлагадоўля атрымала першае месца ў планах развіцця сельскай гаспадаркі Беласточчыны. За чатыры гады колькасць кароў мае павялічыцца ў нас да мільёна штук, а на кожныя 100 га зямельных угоддзяў у 1980 годзе плануецца па 110-120 штук свіней.

Без добрых інвентарскіх будынкаў няма што і марыць аб ажыццяўленні гэтых намераў. Таму рашылі мы памагчы нашым чытачам.

На пачатак выбралі мы праект будынка, які сваім выглядам нагадвае даўнейшыя сялянскія хлявы, але распланаваны ён згодна з патрэбамі сучаснай вясковай гаспадаркі, што добра відаць на малюнку. Выгодны доступ да ўсіх кают і скразны праезд аблягчаюць абслугоўванне жывёлы і ачыстку хлява ад гною.

Аўтары гэтага праекта (сімвал яго ZBŁ-4) засцерагаюцца, што гэта інвентарскі будынак для 2-5-гектаравых гаспадарак. Здаецца нам, што гэтая засцярога зусім непатрэбна, бо можа ён быць прыдатны ў кожнай гаспадарцы, перш за ўсё як адзін з будынкаў для гадоўлі кароў, свіней і авечак. Выкарыстанне яго, а ў сувязі з тым і ўнутранае абсталяванне, будзе залежыць ад патрэб гаспадара. Распланаванне, якое бачым на малюнку, трэба лічыць толькі як адно з магчымых. Яно задумана даволі талкова, бо дае магчымасць трымаць у гэтым хляве, для прыкладу, чатыры дойныя каровы, дзве ялоўкі і двое цялят, ды яшчэ астанецца месца або для двух коней, або для штук дзесяці авечак.

Калі гэты будынак выкарыстоўваць як хлеў для свіней, тады на месцы падручнай камеры хавання малака лепш абсталяваць парнік, а засек 2, які праектанты прызначаюць на нарыхтоўку пашы, выкарыстаць як месца для дадатковай колькасці свіней. Тады найлепш было б зрабіць месца для свінаматак з правага боку камеры 3.

Прасторнае паддашша павінна быць выкарыстана для магазіравання сена або саломы і іншых кармоў. Доступ да гэтага паддашша праектанты зрабілі ад шчытоў. Хопіць уважна паглядзець на малюнак, каб пераканацца, што гэта вельмі нявыгадна, бо няма магчымасці пад'ехаць блізка да шчытовай сцяны, перашкаджае даволі высокі парог з пад'ездам у хлеў. Таму шмат практычней і выгадней было б зрабіць дзверы на паддашша збоку — праз дах, дабудаваўшы агульнавядомую сялянам надбудоўку з балконавым выступам.

Яшчэ толькі абгарадзіць гэты хлеў адпаведным майданам, куды б жывёла магла выбягаць, і ўжо ён гатовы. Пад яго пабудову трэба 88 квадратных метраў плошчы — дзялянка 11x8 м. Побач з гэтым будынкам праектанты запланавалі сілас, рэзервуар на гнаёўку і склад на гной. Апрача гэтага, прадбачваецца водаправоднае, каналізацыйнае і супрацьпяруновае абсталяванне, асвятленне, вядома, электрычнае.

Будаваць яго можна або з белай пясочнавапнавай цэглы, або з пустакоў тыпу „альфа“. Дах — драўляны, пакрыты этэрнітавымі плітамі. Калі каму патрэбна будзе больш месца ў хляве, дык у „Каталогу...“ знойдзеце праект ZBŁ-5. Ён зусім такі самы, як вышэй апісаны, толькі даўжэйшы на тры метры значыць, 14x8 м. Таму мы не будзем асобна яго друкаваць у „Ніве“.

Прыпамінаем, што ўсе праекты, якія мы вам прапануем, можна атрымаць у кожным упраўленні гміны, у будаўнічага рэферэнта.

**М. Нурэцкі**







PROGRAM UŻYTKOWY

1. POMIESZCZENIE GŁÓWNE 60,6 m²
2. PASZARNIA 8,3 m²
3. PRZECHOWALNIA MLEKA 5,0 m²

КУТОК ПРАКТЫЧНЫХ ВЕДАЎ




## БЯССОННІЦА

Часта бывае, што вечарам ужо хістаемся на нагах і, несамавіта стомленыя, марым толькі аб тым, каб хутчэй легчы і спаць. Але толькі ляжаш — як пачынаем круціцца, пераварочвацца з боку на бок, перакладаем падушку, нацягваем коўдру на галаву... а сон не прыходзіць. Мінаюць доўгія мінуты, гадзіны, мы ўглядаемся з непакоем у цемру ночы і хвалюемся, што не зможам заўтра, не выспаўшыся, працаваць...

Чаму мы не можам спаць? Ці перашкаджае нам заснуць галаўная боль? Ці штодзённыя клопаты? Ці страшэнная стомленасць? Ці наогул бяссонніца — гэта хвароба?

А сон жа, як голуб. Выцягнеш да яго руку спакойна — ён прыляціць і сядзе. А спрабуем яго лавіць — ён паляціць ад цябе. Так трапна і проста ахарактарызаваў складаную з'яву сну адзін з вядомых французскіх вучоных.

Інакш кажучы, хто прымушае сябе заснуць, найчасцей церпіць паражэнне. А калі ж далучыцца да гэтага непакой пра надыходзячы дзень, калі трэба будзе цяжка працаваць і хутка думаць, то можна быць амаль упэўненым, што спакойны і здаровы сон, які б даваў адпачынак, да вас не прыйдзе.

Вучоныя розных краін прабавалі ўжо няраз даследваць уплыў цалкавітай бяссонніцы на здароўе чалавека. Людзі, на якіх былі праведзены вопыты, не спалі 90, 100, а ў адным выпадку нават 200 гадзін. Пасля заканчэння эксперыменту ім дазволілі спаць аж да таго моманту, пакуль не будуць яны сябе адчуваць бадзёрымі і адпачыўшымі. Наогул будзіліся яны ўжо праз паўсутак.

Доследы гэтыя пацвердзілі факт, які прадбачылі вучоныя ўжо тэарэтычна. Бяссонніца не выклікае ані самаатручвання арганізма, ані ніякіх хвароб, не абмяжоўвае інтэлектуальнага развіцця. Ад бяссонніцы не паміраюць.

Але той, каму па начах не спіцца, скажа: слабая пацеха. І будзе мець рацыю.

Што зрабіць, каб бяссонніцу перамагчы, каб магчы на працягу прынамсі 6—7 гадзін у суткі моцна спаць?

Перш за ўсё неабходна памятаць аб найважнейшай справе: бяссонніца сама не з'яўляецца хваробай, а толькі прызнакам таго, што нешта не ў парадку з нашай нервовай сістэмай. Таму лячэнне самой бяссонніцы не мае сэнсу. Яна ж выклікаецца свядомым ці падсвядомым эмацыянальным напружаннем, клопатамі, ад якіх мы не можам адарвацца нават уначы.

Дактары, якія займаюцца праблемамі бяссонніцы, гавораць, што перш за ўсё трэба хацець яе перамагчы і не паддавацца псіхозу, страху перад бяссоннымі начамі. Класціся спаць трэба старацца рэгулярна, у адну і тую ж пару. Тады прывычка пераходзіць ва ўмоўны рэфлекс.

Трэба старацца засынаць ва ўлюбёнай пазіцыі. Хто любіць, напрыклад, засынаць на жываце, можа не змружыць вока да раніцы, калі вымушаны быў ляжаць на баку.

Вельмі нервовыя людзі не змогуць заснуць у цемры, іншым жа перашкаджае найменшы промень свету.

Некаторыя перад сном абавязкова вымушаны з'есці нешта салодкае, што, зрэшты, не пазбаўлена логікі, паколькі цукар дапамагае арганізму вярнуць псіхічную раўнавагу.

На многіх людзей, як насонны сродак, дзейнічае чытанне кніжак. Адна жанчына, прывыкшая да такога „насоннага“, змагалася з бяссонніцай цэлы тыдзень, калі ў час замежнага падарожжа забракла ёй кніжак і газет на роднай мове.

Чым цяжэй мы засынаем, тым больш трэба ахоўваць гэтыя свае, здавалася б, зусім нявінныя прывычкі. Найважнейшым лекам аднак з'яўляецца ўменне пасля працы адпачываць і выключацца з эмоцый першай паловы дня.

Сучаснаму чалавеку не хапае цярплівасці на выпрацаванне прынцыпаў псіхічнай гігіены. Ён ахвотней ідзе ў аптэку і набывае там насонныя сродкі, якія аднак толькі прыглушаюць цэнтральную нервовую сістэму. Пасля насоннай таблеткі мы пападаем не ў стан сну, а нібы несвядомасці, будучай толькі слабай заменай сну. Прымаючы насонныя таблеткі штодзень у колькасці, якую арганізм не паспее выдаліць, мы прымаем шкодныя субстанцыі, аслабляем сваю памяць і розум.

Таму нічога дзіўнага, што ў апошні час медыцына шукае саюзнікаў у натуральных насонных сродках, да якіх найчасцей пацыенты, захопленыя магічным дзеяннем цудоўных таблетак, не адносяцца ані з даверам, ані з пашанай.

У акцыю здаровага сну ў многіх краінах уключаецца тэлебачанне. Вечарам, у перапынках між паасобнымі пунктамі праграмы, яно паказвае прыгожую дзяўчыну, якая паволі распранаецца і пачынае так пазяхаць, што мала каго не агорне ў той час сон.

**Эскулап**




Глебаў вярнуўся на заставу стомлены, галодны і злы. Паездка ў Тыжэчкі нічога не дала, напэўна, час быў упушчаны. У хаце на закінутым хутары за рэчкай валяліся кансервавыя бляшанкі, акуркі, ляжалі ахапкі прымятага сена. Затрыманы парашутыст сцвярджаў, што менавіта гэты закутак быў прызначаны пунктам збору і вельмі падобна на тое, што астатнія двое пабылі тут і чакалі яго. Але не дачакаліся і пайшлі. Магчыма, адчулі нешта нядобрае, што таго так доўга няма.

Лузан супакойваў начальніка, гаварыў, што пачатак ужо ёсць і адзін дыверсант абясшкоджаны. Ён паведаміў прыкметы астатніх і прыкладныя аб'екты дзеянняў, што, безумоўна, палегчыць пошук. Але гэта не суцяшала Глебава.

— Пётр Пятровіч, чаму нічога не заўважыў у Тыжэчках дазор Яфімцава, які быў там ноччу?

— Дазор вы паслалі туды — проста як прадчувалі, — адказаў Лузан, — але, напэўна, і Яфімцаў спазніўся.

У дзверы пастукалі, і ўвайшоў Яфімцаў.

— Таварыш капітан, гвардыі радавы Яфімцаў па вашаму загаду прыбыў! — чотка далажыў ён.

— Якраз размова пра вас, гвардыі радавы.

Капітан коратка расказаў аб затрыманым дыверсанце і паездцы ў Тыжэчкі, потым спытаў:

— Вы нічога падазронага не заўважылі ў Тыжэчках?

— У вёсцы — нічога, таварыш капітан, а за рэчку на хутар мы не хадзілі.

— Чаму?

— Гэта не ўваходзіла ў нашу задачу. Нам было загадана рухацца да вёскі, а потым вярнуцца на заставу іншым маршрутам. А хутар — за рэчкай...

У хаце наступіла цяжкае маўчанне. Глебаў так пазіраў на салдата, які стаяў перад ім, быццам бачыў яго ўпершыню.

Лузан, бачачы, што Глебаў накаляецца і вось-вось узарвецца, палічыў патрэбным умяшацца ў размову.

— Скажыце, Яфімцаў, няўжо вам так і не прыйшла ў галаву думка пашукаць на хутары?

— Жырноў прапанаваў, таварыш лейтэнант, а я не пагадзіўся.

— Значыць, Жырноў, малады і нявопытны, дадумаўся, а вы — не?

— І ён дадумаўся, — перапыніў капітан, ды паленаваўся лішнія сто крокаў зрабіць, ногі памачыць. У цёплую хату спяшаўся. — Глебаў ускочыў і, кульгаючы мацней, чым звычайна, стаў хадзіць па пакоі.

Яфімцаў стаяў, апусціўшы галаву.

— Ідзіце, гвардыі радавы, адпачывайце, — кінуў яму Глебаў, асабліва падкрэсліўшы апошняе слова. Але Яфімцаў не крануўся з месца.

— Таварыш капітан, — сказаў ён. — Я першы раз у жыцці такім недарэкам аказаўся. Жырноў дадумаўся, а я... Я цяпер ведаю, што зрабіў бы, каб прамашку сваю загладзіць. Толькі што ж... позна.

— Загладзіць ніколі не позна, — адказаў Лузан, — толькі трэба зразумець, нарэшце, для чаго вы тут.

— Добра, Пётр Пятровіч, — стомлена прамовіў Глебаў, — хопіць слоў. Ідзіце, Яфімцаў, і будзем лічыць, што мы зразумелі адзін аднаго. Ды скажыце Краўцову, хай абед прынясе, з раніцы я нічога не еў.

Яфімцаў выйшаў.

— Ну, што скажа камісар?

— Што ж тут сказаць... Прамашку хлопец зрабіў, хоць яго асабліва вінаваціць нельга. Затое цяпер ён за траіх будзе старацца.

— Вы ўпэўнены?

— Людзям трэба верыць.

— Гэта праўда.

Афіцэры памаўчалі.

— А пачатак усё ж такі гарны, — зноў азваўся Лузан.

— Вы пра што?

— Ды пра „Лістапад“. Сам падаць пачаў. Гнілое ўжо лісце ў фашысцкай разведкі. Нездарма гаворыцца: „Нездаляшчая скаціна — не жывbadціна“.

Глебаў нахмурыўся.

— Ну, гэта вы дарэмна. Клопату яшчэ нам зададуць... Вось двое блукаюць у нас пад носам, а колькі яшчэ ўсялякай нечысці па лясах хаваецца — недабітыя гітлераўцы і проста бандыты.

Магутны абвальны грукат даляцеў аднекуль з усходу, здрыганулася хата, жаласна дзінкнулі шыбы.

Глебаў і Лузан пераглянуліся.

— Напэўна Штабін бамбяць фашысты, — сказаў начальнік заставы, — а там нашы танкі сцягваюцца. Ці не работа гэта парашутыстаў, ці не яны „юнкерсы“ наводзяць.

— Наўрад, каб паспелі, — запярэчыў Лузан, — а пра тое... усё можа быць. Іх жа не тройку заслалі.

Ён паглядзеў на асунуты твар начальніка і прапанаваў.

— Вы паабедайце, таварыш капітан, а я тым часам нарады выпшлю.

— Ага. Паабедаць трэба, — пагадзіўся Глебаў. — І ўсю заставу на ногі. Фашысты пад носам арудуюць.

(Працяг будзе)

# ТРЫБУНА чытачоў

## Новы філіял гміннай спулдзельні

Тэрыторыю гміны Бабікі ў Сакольскім павеце дагэтуль абслугоўваў ГС у Крынках. Ён мае ўжо свой філіял у Шудзялаве. А жыхары Бабіцкай гміны вымушаны былі ездзіць за рознымі пакупкамі (будаўляныя матэрыялы, мінеральныя ўгнаенні і іншыя) у Шудзялава, або ў Крынкі. А вёскам Мінкоўцы, Уснар, Вайноўцы і Зубрыца ў Шудзялава ці Крынкі 10—12 кіламетраў.

Была і іншая бяда — цэменту і вугалю не заўсёды бывае ўдосталь. І пакуль людзі з Бабіцкай гміны даведаюцца, што ёсць цэмент, бліжэйшыя вёскі забяруць яго. Ад новага года крынскі ГС адкрыў у Бабіках свой новы філіял. Цяпер на месцы ёсць і мінеральныя ўгнаенні, і кармы, і вугаль, і будаўнічыя матэрыялы: цэмент, пустакі, цэгла і г.д.. Вайноўцы і Мінкоўцы ўжо не едуць у Крынкі, ці Шудзялава, а купляюць у Бабіках.

Прэзасам філіяла ў Бабіках стаў адпаведны чалавек — Мікола Васілеўскі з Крынак, які дбае, каб у бабіцкім філіяле быў парадак. Бяда пакуль толькі такая, што няма складу на сельскагаспадарчыя матэрыялы. У гэтым ужо патрэбна дапамога жыхароў вёскі Бабікі. Трэба, каб людзі адпусцілі крыху сваіх будынкаў для перахоўвання хоць некаторых матэрыялаў, якія асабліва баяцца снегу ці дажджу.

**Т. К.,**
Бабікі




**На артыкул М. Хмялеўскага „Старыя на вёсцы“**

## Чэсць і слава старым!

Чэсць і слава ўсім старым,
Што на вёсках пражываюць,
Хлеб насушны для людзей
Ў цяжкім трудзе вырабляюць.

Моладзь уся з вёскі ўцякла
Ў горад — тут усе школы мае.
Рабіць не хоча на зямлі,
Дык хлеба лёгкага шукае.

А хлеба, мяса, ды каўбас
У горадзе дык крамы маюць,
Усім, хто хоча, прадаюць,
Нічуць не выдзяляюць.

У горадзе, як будзеш жыць,
Дык трэба многа грошай мець,
Бо трэба тут усё купіць,
Ды ў бары пасядзець.

Грошай тут многа не дадуць
І заўжды будзе іх замала,
Дык бацькі з вёскі іх прышлюць,
Каб хоць не бракавала.

А што жа, бацька, ты ж стары
І школы ты не маеш —
На гаспадарцы дык сядзі
Работу тут ты знаеш.

А што было б, каб і старыя
Таксама ў горад паўцякалі?
Забракла б там у крамах хлеба
І ў горадзе бяду спазналі б.

Старыя многа ўжо пражылі,
Знаюць што голад і вайна,
Даўно на свеце мо б не былі,
Каб не трымала родная зямля.

На вёсцы, хоць стары — жыць буду!
І хоць ніякіх школ не маю,
Людзей ратую ад бяды —
Ім хлеб насушны здабываю.

**Міхась Матвеюк**

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Ніву“!

## Весткі з Козлікаў

Вёска Козлікі, што на Гайнаўшчыне, невялікая. Доўга не было ў гэтай вёсцы электрычнага святла. А летам 1972 года збыліся мары жыхароў. У вёсцы настала зусім новае жыццё. Людзям, якія прызвычаіліся да нафтовай лямпы, было вялікай радасцю, калі ў іх хатах і на вуліцы засвяціліся электрычныя лямпачкі. Многія жыхары пакуплялі розныя машыны, патрэбныя ў гаспадарцы, якія працуюць на электраэнергіі. Амаль у кожнай хаце паявіўся тэлевізар.

**Чытачка з Козлікаў**

## Ці патрэбны пункты скупкі бутэлек?

У Бельску Падляшскім ёсць некалькі пунктаў скупкі бутэлек ад розных алкагольных напіткаў. За кожную пустую бутэльку пункты плацяць адзін злоты. Іншых бутэлек не прымаюць, іх выкідаюць абы-куды. У большасці выпадкаў пры пунктах скупкі бутэлек будуюцца асобныя будкі на купленыя бутэлькі. Калі ўжо назбіраецца адпаведная іх колькасць, тады прыязджае грузавы самаход і забірае скрынкі з бутэлькамі.

На маю думку, такія вось пункты скупкі непатрэбны. Скупка пустых бутэлек павінна адбывацца ўсюды там, дзе прадаюцца напіткі. Дагэтуль ёсць так, што калі хочаш купіць піва, аранжаду ці квас, дык прынось на абмен пустыя бутэлькі, атрымаеш поўныя. Калі можна прымаць у краме пустыя бутэлькі пры пакупцы піва ці аранжады, дык можна было б таксама прымаць пустыя бутэлькі пры пакупцы алкаголю. Не было б лішніх расходаў на арганізаванне спецыяльных пунктаў скупкі бутэлек, тым больш, што гэтыя пункты не купляюць усіх пустых бутэлек, а толькі некаторыя.

**Нестар Перавой**




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне 19 год. Жыву і працую ў горадзе. Два гады таму назад на канікулах я была ў сваякоў на вёсцы і там пазнаёмілася з Валікам. Вельмі ён мне спадабаўся і, здавалася, ужо ніколі ў жыцці ніхто мне так не будзе падабацца. Спатыкаліся мы рэдка, бо Валік вучыўся ў сярэдняй школе ў іншым горадзе, але перапісваліся вельмі часта. Закончыўшы школу, Валік атрымаў працу ў горадзе Б., дзе і я жыву. Ад тае пары мы сустракаліся часта. Валік быў вельмі зайздросны, меў прэтэнзіі, калі хто да мяне загаварыў ці зажартаваў, а ўжо калі на забаве затанцавала з іншым хлопцам, дык тады ўжо і мне і хлопцу таму дасталася нямала. З-за гэтага мы часта сварыліся. Колькі я яму ні тлумачыла, ні гаварыла — Валік не змяніўся. А я не магу пагадзіцца з тым, што каханне гэта няволя. Нядаўна я на вяселлі ў сяброўкі пазнаёмілася з Толікам. Ён старэйшы за мяне на 9 год. Мы спатыкаліся, бывалі на вечарынах. Ён вядзе сябе зусім інакш. Я і пагаварыць, пажартаваць і затанцаваць з іншым хлопцам магу. Аніякіх прэтэнзій. Толік гаварыў, што мяне кахае і хацеў бы са мной хадзіць. Але я не магу пазбыцца Валіка. Прыходзіць да мяне, прыносіць шакалад. Але я не хачу ні яго, ні тых шакаладаў яго. Абрыд мне сваёй зайздрасцю. Парай, „Сэрцайка“, што мне рабіць?

**Марыля з Б.**

Марыля! Згаджаюся з табой, што каханне — гэта не няволя. Павінна яно абапірацца на давер і пашану. Зайздрасць — спадарожнік кахання. Але зайздрасць разумная, а не празмерная, хваравлівая.

Хваравлівая зайздрасць можа пасварыць не толькі закаханых маладых людзей, так як у тваім выпадку, але і разбіць сям'ю, у якой ёсць дзеці. Калі ты кахаеш Толіка і хочаш быць з ім, дык скажы адкрыта Валіку, што з ім хадзіць не хочаш. Кахаць ніхто нікога не прымусіць. Ты маеш права выбраць сабе такога хлопца, які табе падабаецца. А што Толік старэйшы, дык гэта не мае ніякага значэння.

**„Сэрцайка“**

## Прыпынак ПКС каля вёскі Пасынкі

Каля вёскі Пасынкі (Бельскі павет) ёсць прыпынак ПКС. Калі будыначак быў толькі пабудаваны, людзі з ахвотай знаходзілі ў ім прытулак ад ветру і дажджу ў час чакання аўтобуса. Міла было глядзець на чыстыя шыбы ў вокнах, памаляваныя сцены. Людзі ўваходзілі туды пагрэцца. Ды ўсё гэта камусьці не спадабалася. Цяпер? Ох, цяпер нават не хочацца пісаць аб тым, як выглядае пасынскі прыпынак ПКС. Выбітыя вокны, на падлозе поўна шкла, вецер у будынку вые. А за дзвярыма... бррр! Дрэнна чалавеку робіцца, калі гэта ўбачыць. І ёсць жа людзі, якія паступаюць так брыдка. Не задумваюцца яны, што нельга гэтак. Праз аднаго ці двух хуліганаў людзі не хочуць цяпер нават заглянуць у будку ПКС на прыпынку Пасынкі. Хоць мароз ціснe, а яны стаяць на двары.

Спрабуйма аднак адказаць на пытанне, хто так брыдка робіць? Ды навакольная моладзь. Людзі расказваюць, што бачаць „вучоных“, якія „сядаюць“ за дзвярыма. А мо ўсё ж такі зразумеюць яны, што гэтак нельга? Чакаем!

**Чытач „Нівы“**

## Гміна — майстар гаспадарнасці

У Шудзялаве адбылося пасяджэнне гміннага камітэта Фронту адзінства народу і прэзідыума гміннай рады нарадовай. Сабраныя пастанавілі, што гміна Шудзялава прыме ўдзел у конкурсе „Гміна — майстар гаспадарнасці“.

Гміна Шудзялава мае магчымасці, каб заняць у гэтым конкурсе перадавое месца і атрымаць узнагароду. Але справа гэта нялёгкая. Трэба, каб за дзела ўзяліся тут у першую чаргу гмінны актыў і ўсе палітычныя і грамадскія арганізацыі. Трэба ў кожнай вёсцы правесці вясковыя сходы, заклікаць гаспадароў да ўдзелу ў конкурсе.

Пункты ў гэтым конкурсе здабываюцца за павелічэнне жывёлагадоўлі, а гэтага ў Шудзялаўскай гміне можна смела дабіцца. Прайшла тут ужо ўсюды камасацыя зямлі, няма цераспалосіцы, а ў многіх вёсках былі падзелены супольныя выганы.

Пункты можна таксама здабыць за павышэнне ўжывання мінеральных угнаенняў, за вапнаванне зямлі, за грамадскія чыны, за павелічэнне гадоўлі свіней, за парадак у вёсках і г.д. Найбольш пунктаў даецца за будову сіласаў. Гэта важная справа і тут трэба шмат папрацаваць, але зрабіць гэта трэба. Само нішто не прыдзе.

**Т. К.**

## А вось і Тапчыкалы

Вёска Тапчыкалы, што ў Бельскім павеце, невялікая. Як кожная вёска, жыве і яна сваімі малымі і вялікімі справамі. Вялікая, як на цяперашнія ногі, адлегласць ад чыгуначнага прыпынку і прыпынку ПКС можа паслужыць многім да названня Тапчыкал вёскай „забітай дошкамі“ і забытай усімі. Аднак так справы вёскі не прадстаўляюцца. Тапчыкалы — гэта сучасная вёска, якая гудзе жыццём. Тут многа відных грамадскіх дзеячоў. Вось хаця б Ніна Сікора — старшыня гуртка вясковых гаспадынь. Яна пастаянны супрацоўнік грамадскай бібліятэкі ў Грэдалях, разам з якой арганізуе шмат сельскагаспадарчых курсаў і конкурсаў.

Тут таксама жыве Дзмітры Пост — вядомы грамадскі дзеяч. Працуе ён на невялікай гаспадарцы, аднак дзякуючы добрай арганізацыі працы вынікі, якія атрымлівае, вельмі добрыя. Дзмітры Пост — гэта таксама радны гміннай рады нарадовай у Орлі, дзеяч гміннай камісіі грамадскага парадку, старшыня мясцовага сельгасгуртка. Ён умее зладзіць сваю працу на гаспадарцы з абавязкамі раднага і грамадскага дзеяча ўвогуле.

Дзякуючы намаганням Д. Поста ў вёсцы Тапчыкалы была пабудавана крама. Хаця яна маленькая, аднак сяляне вельмі задаволены. За многімі неабходнымі прадуктамі не трэба цяпер хадзіць у суседнюю вёску Пашкоўшчына.

У Тапчыкалах многа моладзі. Маладыя вучацца ў школе, якая знаходзіцца ў Пашкоўшчыне. Пасля заканчэння гэтай школы многія ідуць вучыцца далей. Сярэдняй школай, якую часта выбіраюць, з'яўляецца Бельскі беларускі ліцэй.

У апошні час сяляне вёскі пачалі арганізоўваць клуб селяніна.

Тапчыкалы — гэта цяпер вёска, якая стройна крочыць у лепшае, шчаслівае заўтра.

**М. Інфармацкі**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

На дарозе Гайнаўка-Нараў, паблізу вёскі Галякова Шыя, разбілася аўтамашына маркі „Шкода“, якую вёў Уладзімір Янчук, 35 год, пражываючы ў вёсцы Навасады. Гэта была яго ўласная машына. Ён стукнуўся з ехаўшым насупраць „Ельчам“ ПКС-у. У „Шкодзе“ ехала 6 чалавек. Трое — Уладзімір Янчук, Бажэна Янчук, 5 год, і Марыя Васілюк, 45 год, загінулі на месцы. Астатніх — Яўгенію Васілюк, 33 гады, Марыю Янчук, 29 год, і Роберта Янчука, 4 гады, цяжка параненых, адвезлі ў бальніцу.

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Trzy kroki w szaleństwo" (włoski), 19—20. „Mały wielki człowiek" (USA), 21—22. „Własne zdanie" (bułg.), 23—24.

**Чаромуха**
„Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), 19—20. „Kłopoty z miłością" (NRD), 23—24.

**Кляшчэлі**
„Niewolnicy" (USA), 19—20 „Drogi mężczyzn" (czeski), 21—22. „Zimorodek" (radz.), 23—24.

**Нараўка**
„Homolkowie na urlopie" (czeski), „Pokój przechodni" (NRD), 20—24.

**Нарва**
„Pozwólcie startować" (radz.), „Ja wam pokażę" (NRD), 20—24.

**Чыжы**
„Odstrzał" (USA), „Motyle" (polski), 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**
„Szklana kula" (polski), „Tam, gdzie rośnie zielony bór" (jugosł.), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Opętanie" (polski), „Ciepło twoich rąk" (radz.), 20—24.

**Райск**
„Gracz" (radz.), „Sacco i Vanzetti" (włoski), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Roztargniony" (franc.), 23—24.

**Міхалова**
„Noc mewy" (japoński), 19—20. „Dom państwa Bories" (franc.), 21—22. „Jezioro osobliwości" (polski), 23—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**
„Najlepsze lata w życiu mężczyzny" (węgierski), „Gdzie jest generał" (polski), 20—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Sprawdzono min nie ma" (jugosł), 19—20. „Więzy" (węgierski), 21—22. „Po latach" (radz.), 23—24.

**Мілейчыцы**
„Jankes" (szwedzki), 19—20. „Śmierć wybiera" (czeski), 21—22. „Ned Kelly" (ang.), 23—24.

**Мельнік**
„Legenda" (polski), 19—20. „Cudowny kożuszek" (węgierski) 21—22. „Raport 36" (koreański), 23—24.

**Ніва**

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911.

BZGraf. Nakład 7854 O-3

